Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

30 ЖНІЎНЯ 1929 г.

№ 9 (68)

V-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# ЗЬМЕСТ

Стар.

## 1. Пастанова Эканамічнае Нарады пры СНК БССР

### пра зьмену „Палажэньня пра фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня каляктыўных гаспадарак“.

Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе ўнесьці наступныя зьмены ў „Палажэньне пра фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня каляктыўных гаспадарак“ (Бюл. СНК 1928 г. № 15, п. 1):

1. Скасаваць у § 2 пункт „д“.

2. Да § 6 дадаць увагу наступнага зьместу: „Крэдыты на сельска-гаспадарчыя машыны выдаюцца на тэрміны, вызначаныя шкалой крэдытаваньня с-г. машынамі“.

3. § 7 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Пазыкі з гэтага фонду выдаюцца каляктыўным гаспадаркам з 2½% гадовых“.

Процанты бяруцца за мінулы час пры наступленьні чарговых гасільных плацяжоў і толькі з сумы гэтых плацяжоў. Процанты поўнасьцю ідуць ў карысьць сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту ў якасьці камісійнай узнагароды“.

Старшыня Эканамічнае Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *М. Калевіч.*

27 чэрвеня 1929 г.

---

## 2. Правілы пра крэдытаваньне насельніцтва лесам.

1. Для садзейнічаньня бяднейшаму сельскаму насельніцтву і каляктыўным гаспадаркам у задаволеньні патрэб у будаўнічых матарыялах выдзяляецца фонд крэдытаваньня лесам у разьмеры, які штогод вызначаецца Эканамічнай Нарадай.

Фонд гэты знаходзіцца пад ведамам Белсельбанку.

2. Разьмеркаваньне фонду робіцца:

а) па акругах—Лясным Аддзелам Народнага Камісарыяту Земляробства разам з прадстаўнікамі Народнага Камісарыяту Фінансаў, Беларускага Сельска-гаспадарчага Банку, Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапомогі і Беларускага Саюзу Каляктыўных Гаспадарак;

б) па раёнах і лясьніцтвах—акруговымі зямельнымі аддзеламі разам з прадстаўнікамі акруговых фінансавых аддзелаў, акруговых установ сыстэмы сельскагаспадарчага крэдыту, акруговых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і акруговых аб'яднаньняў каляктыўных гаспадарак;

в) па сельскіх саветах—раённымі выканаўчымі камітэтамі разам з прадстаўнікамі сельска-гаспадарчай крэдытнай кааперацыі, раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і лясьніцтваў;

г) паміж калектыўных гаспадарак і бяднейшым сельскім насельніцтвам—сельскімі саветамі з прадстаўнікамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў.

3. Водпуск лесу ў крэдыт за рахунак данага фонду робіцца лясьніцтвамі ў разьмеры ня звыш устаноўленых норм па асобных патрабаваньнях сельскагаспадарчага крэдытнага таварыства на суму, якая паказана ў патрабаваньні, па цане, якая ўстаноўлена для сельскага насельніцтва. У выпадку, калі вартасьць лесу, што адпускаецца, перавышае суму прад'яўленага патрабаваньня, то нехапаючая сума спаганяецца з атрымальніка наяўнымі грашмі.

4. Пазыкі лесам выдаюцца на тэрмін: а) індывідуальным гаспадаркам: на бягучы рамонт будынкаў—да 3 год, на капітальны рамонт—да 5 год, а на пабудову новых—да 10 год; б) калектыўным гаспадаркам: на рамонт—да 10 год, а на пабудову новых - да 15 год. На пазыку налічваецца 4% гадовых; процанты бяруцца за мінулы час пры чарговых гасіцельных плацяжох і толькі з сумы гэтых пляцяжоў.

Процанты поўнасьцю паступаюць у карысьць сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту ў якасьці камісійнай узнагароды.

5. На суму выдадзенага ў крэдыт лесу крэдытнае таварыства выдае пазычальніку патрабаваньне на адпаведнае лясьніцтва з вызначэньнем, на якую патрэбу выдадзена пазыка, г. з. на пабудову хаты, гумна і г. д., і сумы пазыкі.

Патрабаваньне складаецца з карэнчыка, які застаецца ў крэдытным таварыстве, што выдала патрабаваньне, самага патрабаваньня і дублікату, якія прадстаўляюцца пазычальнікам у лясьніцтва. Лясьніцтва, адпусьціўшы лес, робіць на дублікаце патрабаваньня адзнаку аб сапраўднай суме адпушчанага лесу і з распіскай пазычальніка ў атрыманьні лесу зварочвае дублікат крэдытнаму таварыству.

6. Пабудаваная або папраўленая пабудова абавязкова павінна быць застрахавана на суму ня ніжэй разьмеру пазыкі і страхавы поліс павінен быць прад'яўлены крэдытнаму таварыству, аб чым робіцца адзнака на пазычальным абавязацельстве.

7. Сумы, што выплачваюцца пазычальнікамі ў зварот лясных пазык, выдадзеных у 1924-25, 1925-26 і 1926-27 г. г., паступаюць у асобны фонд ў Белсельбанку па крэдытаваньню насельніцтва на патрэбы агнятрывалага будаўніцтва. Зваротныя ж плацяжы па лясных пазыках, выданых у 1927-28 г. і далейшыя гады паступаюць у прыбытак скарбу, і Белсельбанк павінен здаваць гэтыя плацяжы не пазьней месячнага тэрміну пасьля іх паступленьня, а ў выпадку пратэрмінаваньня на няздаваную суму налічаюцца процанты ў разьмеры 6% гадовых.

8. Для разьвіцьця гэтых правіл Белсельбанк, узгодніўшы з народнымі камісарыятамі Земляробства і Фінансаў і Цэнтральным Камітэтам Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі і Белкалгассаюзам, выдае інструкцыі.

9. З выданьнем гэтых правіл касуюцца правілы за 2 лістапада 1925 году (Бюл. СНК 1926 г., № 2).

Старшыня Эканамічнае Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *М. Калевіч.*

27 чэрвеня 1929 г.

### 3. Правілы пра выдачу пазык ў асноўныя капіталы нізавой сеткі сельска-гаспадарчага крэдыту за рахунак сродкаў, якія выдаюцца па Дзяржбюджэту.

1. Пазыкі у асноўныя капіталы за рахунак сродкаў, якія адпускаюцца па Дзяржбюджэту, выдаюцца праз Белсельбанк сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам як існуючым, так і ўноў узьнікаючым для узмацненьня іх фінансавага становішча і павялічэньня для іх магчымасьці прыцягваньня зваротных сродкаў на крэдытаваньне насельніцтва.

2. Пазыкі на ўтварэньне асноўнага капіталу за рахунак памянёнай крыніцы выдаюцца ў разьмеры ня звыш 10.000 руб. на адно сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства, пры гэтым разьмер пазыкі павінен быць залежным ад агульнай эканомікі раёну і яго велічыні, ад ліку членаў таварыства, ад разьвіцьця ўкладных апэрацый і ад гаспадарчай пастаноўкі спраў таварыства.

3. Разьмер выдаваемай пазыкі павінен быць у залежнасьці ад суадносін паміж абавязацельствамі таварыства па укладах, бягучых рахунках і пазыках і адказнасьцю членаў, прадугледжанай статутам сельска-гаспадарчага крэдытнага таварыства. Пазыка можа выдавацца толькі ў тым выпадку, калі агульная сума абавязацельстваў таварыства разам з сумай, выдаваемай на ўтварэньне асноўнага капіталу пазыкі ў момант выдачы, ня перавышае дадатковай адказнасьці членаў. У далейшым сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства ня можа выйсьці за межы паказаных вышэй суадносін.

4. Пазыкі ў асноўныя капіталы выдаюцца сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам пасьля папярэдняга іх абсьледваньня і выяўленьня іх арганізацыйнага і фінансавага становішча крэдытуючымі органамі.

5. Пры атрыманьні пазыкі ў асноўныя капіталы сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы выдаюць даўгавыя абавязацельствы на суму пазыкі з паказаньнем тэрмінаў і разьмеру гасіцельных плацяжоў.

6. Атрыманыя сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам пазыкі ў асноўныя капіталы павінны быць скарыстаны выключна на пазыковыя апэрацыі кароткатэрміновага характару.

7. Пазыкі ў асноўныя капіталы выдаюцца тэрмінам на 10 год з $2^1/_2$% гадовых, з якіх $1^1/_4$% паступае на пакрыцьцё арганізацыйных выдаткаў установ сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту і $1^1/_4$% у прыбытак скарбу. Проценты бяруцца за мінулы час пры ўносе чарговых гасіцельных плацяжоў і толькі з сумы гэтых плацяжоў.

8. Пагашэньне пазыкі, атрыманай сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам у асноўны капітал, пачынаецца з 3 апэрацыйнага году, лічачы год атрыманьня пазыкі за поўны. Пачынаючы з 3-га году сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства абавязана ўплачваць штогод наступную частку пазыкі, а іменна: на працягу 3-га і 4-га гадоў па 5%, на працягу 5-га і 6-га па 10%, на працягу 7-га і 8-га—па 15% і на працягу 9-га і 10-га—па 20%.

9. Сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы, атрымаўшыя пазыку ў асноўныя капіталы, павінны штогод да канчатковага пагашэньня пазыкі адлічаць ва ўласны асноўны капітал ня менш той сумы, якая падлягае ўплаце у кожным годзе для пагашэньня часткі пазыкі.

10. Калі ня хопіць прыбытку для ўтварэньня адлічэньняў, памянёных у п. 9 гэтых правіл, то адпаведная частка на пагашэньне пазыкі

папаўняецца з запаснага капіталу, а пры недахопе апошняга—таварыства павінна пералічыць нехапаючую суму на рахунак прыбыткаў і выдаткаў бягучага году.

11. Сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства можа пагашаць пазыку і раней тэрміну, на які яна выдадзена, а таксама пры тэрміновых плацяжох можа уносіць больш вызначаных абавязацельствам сум, з той аднак, умовай, каб пазычаны асноўны капітал у той-жа меры заменяўся ўласным.

12. У будучым да поўнага пагашэньня пазыкі выдача дывідэнду і ўтварэньне спэцыяльных капіталаў за рахунак прыбыткаў сельска-гаспадарчага крэдытнага таварыства дапушчаецца толькі з сумы прыбытку, які застаецца вольным пасьля пакрыцьця тэрміновага плацяжу па пазычцы і адлічэньняў ва ўласны асноўны капітал.

13. У выпадку пратэрмінаваньня плацяжу на пагашэньне данай пазыкі—пратэрмінаваны плацёж спаганяецца ў бясспрэчным парадку, пры гэтым сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства плаціць за пратэрмінаваную суму, апроч устаноўленых працантаў, пеню ад дня пратэрміноўкі да дня ўплаты ў разьмеры працантаў, якія плацяцца па пазычцы.

14. Калі дзейнасьць сельскагаспадарчага таварыства будзе стратнай на працягу першых 3-х год або ня будзе адпавядаць патрабаваньням закону і статуту, а таксама калі выдадзеная пазыка будзе скарыстана не па прызначэньню, то зварот яе можа быць ва ўсякі тэрмін запатрабаваны, не чакаючы тэрміну пагашэньня пазыкі.

15. За пазыку, атрыманую ў асноўны капітал, сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства нясе адказнасьць на тых-жа падставах, на якіх яно па свайму статуту адказвае па іншых сваіх абавязацельствах.

16. Белсельбанк нясе адказнасьць за своечасовы і поўны зварот у прыбытак скарбу выдадзеных пазык.

17. Гэтыя правілы выдаюцца замест правіл, зацьверджаных Эканамічнай Нарадай пры СНК БССР 31 ліпеня 1926 г. (пр. № 27).

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнае Нарады БССР *М. Калевіч.*

27 чэрвеня 1929 г.

---

## 4. Пастанова Эканамічнае Нарады пры СНК БССР

### пра парадак ацэнкі драўніны, якая будзе адпускацца з дзяржаўных лясоў БССР у 1929-30 г.

Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Улічваючы нясконачанасьць працы па складаньню новых лясных таксаў і небходнасьць своечасовага адводу і ацэнкі лесасек, захаваць на 1929-30 г. лясныя таксы, зацьверджаныя Эканамічнаю Нарадаю 22/IX-1924 г., а таксама і старыя сартымэнтныя табліцы.

2. Ацэнку ўсяе драўніны, што адпускаецца асноўным лесазагатоўшчыкам з лесасек, недасекаў, земфондаў, а таксама перастойных дрэваў і насеньнікаў, рабіць па таксах 1924 г. з налічэньнем гандлёвае

надбаўкі ў разьмерах, існуючых у 1928-29 г., з тым, аднак, каб прадажная карнявая каштоўнасьць была паніжана на 3%.

3. Гандлёвую надбаўку 1929-30 году панізіць:

а) для сьвежага буралому, ветравалу і гарэлага лесу—на 40%,

б) для лесу з махавых балотаў—на 50%, а для іншых аб'ектаў, як пні, кара і асмол, скінуць поўнасьцю.

4. Водпуск лесу сялянскаму насельніцтву праводзіць па існуючых нормах і ацэньваць па агульна-устаноўленых прадажных карнявых цэнах па таксе з гандлёваю надбаўкаю са скідкаю:

а) каляктыўным гаспадаркам для калгасных патрэб і бядняцкай частцы насельніцтва, якая вызваляецца ад сельска-гаспадарчага падатку, у разьмеры 66%;

б) сялянскім гаспадаркам, аплачваючым сельска-гаспадарчы падатак без усялякай надбаўкі да аблагаемага даходу—50%;

в) гаспадаркам, якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак з надбаўкаю да аблагаемага даходу—25%;

г) гаспадаркам, аплачваючым сельска-гаспадарчы падатак у індывідуальным парадку,—без усялякае скідкі.

*Увага.* Іншыя катэгорыі сельскага, а таксама местачковага насельніцтва адносна карнявых цэн на драўніну, якая адпускаецца ім для ўласнага будаўніцтва і апалу, пастановамі райвыканкомаў прыроўніваюцца да аднэй з пералічаных катэгорый сельскага насельніцтва.

5. Для задавальненьня патрэб у драўніне найбольш маламоцнае часткі сельскага насельніцтва і каляктыўных гаспадарак утварыць на 1929-30 г. фонд бясплатных і льготных водпускаў лесу на 300 т. руб. і фонд водпуску лесу ў крэдыт на 800 тыс. руб. (абодвы па таксавай ацэнцы лесу).

*Увага.* Апроч каляктыўных гаспадарак, маюць права на атрыманьне драўніны за лік гэтых фондаў: сем'і бяднейшых вайсковаслужачых Чырвонае Арміі і Флёту, якія вядуць працоўную сельскую гаспадарку, чырвоныя партызаны грамадзянскае вайны, работнікі раённае і сельскае рабоча-сялянскае міліцыі, інваліды працы і вайны, якія знаходзяцца на сацыяльным забесьпячэньні, сялянскія гаспадаркі, зволеныя ад сельска-гаспадарчага падатку і асобы, пацярпеўшыя ад стыхійных няшчасьцяў.

6. Устанавіць суму скідак з ацэнкі драўніны, якая будзе адпушчана ў 1929-30 г. на школьнае, дарожнае, больнічнае і інш. грамадзкае будаўніцтва, што праводзіцца мясцовымі ўстановамі, у разьмеры скідак 1928-29 г.

Уся драўніна, якая будзе патрэбна мясцовым установам пасьля вычэрпаньня гэтага скідачнага фонду, павінна аплачвацца па агульна-устаноўленых цэнах (па таксах з гандлёваю надбаўкай).

7. Даручыць НКЗ і НКФ на падставе гэтае пастановы ў двухмесячны тэрмін распрацаваць дэтальны парадак водпуску і ацэнкі драўніны на 1929-30 год.

Старшыня Эканамічнае Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Намесьнік Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

8 ліпеня 1929 г.

## 5. Пастанова Эканамічнае Нарады пры СНК БССР

**пра разьмеркаваньне і дачу льгот па абавязковым акладным страхаваньні ў 1929-1930 аперацыйным г.**

1. Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе рэспубліканскі фонд льгот па абавязковым акладным страхаваньні на 1929-30 г., устаноўлены на падставе пастаноў Савету Працы і Абароны за 28 чэрвеня 1929 г. („Изв. ЦИК СССР и ВЦИК“ за 5 і 7 ліпеня 1929 г., №№ 151 і 153), разьмеркаваць паміж паасобнымі акругамі наступным парадкам:

| №№ па чарзе | Назва акруг | Разьмер льготнага фонду ў рублёх | |
|---|---|---|---|
| | | Па сельскім страхаваньні | Па гарадзкім страхаваньні |
| 1 | Бабруйская . . . . . | 162.600 | 4.258 |
| 2 | Віцебская . . . . . | 140.200 | 2.976 |
| 3 | Менская . . . . . | 201.200 | 2.571 |
| 4 | Магілеўская . . . . . | 206.500 | 4.037 |
| 5 | Аршанская . . . . . | 144.700 | 1.623 |
| 6 | Гомельская . . . . . | 137.600 | 3.433 |
| 7 | Мазырская . . . . . | 87.500 | 1.153 |
| 8 | Полацкая . . . . . | 96.400 | 862 |
| | Усяго па БССР . . | 1.176.700 | 20.913 |

2. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам у тэрміновым парадку разьмеркаваць акруговыя фонды льгот паміж раёнамі і гарадамі і зрабіць захады, каб раённыя выканаўчыя камітэты хутчэй разьмеркавалі раённыя фонды паміж сельскімі і местачковымі саветамі з тым, каб дача льгот па прыналежнасьці была скончана ў сельскіх мясцовасьцях і ў мястэчках не пазьней 1-га кастрычніка 1929 года, а ў гарадох—да 1-га лістапада 1929 года.

3. Зацьвердзіць дадаюную да гэтага інструкцыю пра парадак дачы насельніцтву БССР льгот па абавязковым акладным страхаваньні на 1929-1930 аперацыйны год.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай
Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

22 ліпеня 1929 г.

Дадатак да пастановы Эканам. Нарады БССР за 22 ліпеня 1929 г.

## Інструкцыя пра парадак дачы насельніцтву БССР льгот па абавязковым акладным страхаваньні ў 1929-30 аперацыйным годзе.

### 1. Па сельскім страхаваньні.

§ 1. Фонд льгот для насельніцтва па абавязковым акладным страхаваньні разьмяркоўваецца паміж раёнамі і гарадамі акруговымі камісіямі па адзіным с.-г. падатку. У склад акруговых падатковых камісій уводзяцца з правам пастаноўчага голасу загадчыкі акруговых страхавых агэнцтваў.

§ 2. Акруговы фонд льгот павінен разьмяркоўвацца паміж раёнамі ў залежнасьці ад эканамічнага становішча сялянскіх гаспадарак з тым, каб ва ўсіх раёнах бяднейшае насельніцтва было аднолькава ахоплена льготамі.

§ 3. Раённы фонд льгот разьмяркоўваецца раённымі падатковымі камісіямі арыентыровачна паміж сельскімі і местачковымі саветамі з удзелам у гэтых камісіях раённых страхавых агэнтаў з правам пастаноўчага голасу.

§ 4. Раённыя камісіі, пры разьмеркаваньні фонду льгот, выдзяляюць рэзэрв з сумы агульнага фонду льгот, неабходны для здавальненьня льготамі сем'яў чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, члены якіх будуць узяты ў шэрагі Чырвонай арміі альбо Чырвонага флёту ўвосень 1929 году.

§ 5. Пастановы падатковых камісій пра разьмеркаваньне фонду льгот зацьвярджаюцца: у акругах—прэзыдыумамі акруговых выканаўчых камітэтаў, а ў раёнах—прэзыдыумамі раённых выканаўчых камітэтаў.

§ 6. Льготы асобным страхаваццелям даюцца сельскімі ці местачковымі саветамі сумесна з камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, альбо сельскімі ці местачковымі фінансава-падатковымі камісіямі там, дзе яны існуюць.

§ 7. За рахунак устаноўленага для сельскага ці местачковага савету фонду льгот у першую чаргу вызваляюцца ад выплаты страхавых плацяжоў:

а) усе тыя гаспадаркі, на якіх налічана акладных страхавых плацяжоў ня больш 50 кап., за выключэньнем налічанага акладу на будынкі сумеснага ўладаньня, як-та: сумесныя хаты, ёўні, лазьні і г. д.;

б) сем'і асоб, узятых у Чырвоную армію і Чырвоны флёт, былыя чырвоныя партызаны і іх сем'і і сем'і асоб, якія былі ўзяты ў якасьці заложнікаў і расстрэляны белапалякамі, інваліды вайны і працы, аднесеныя да першай, другой і трэцяй катэгорыі інваліднасьці,—абавязкова ў разьмеры аднэй трэцяй часткі акладу, налічанага на гэтыя гаспадаркі па ўсіх відах акладнога страхаваньня, за выключэньнем тых гаспадарак, якія індывідуальна абкладзены сельска-гаспадарчым падаткам, або залічаны ў катэгорыю яўна кулацкіх гаспадарак;

в) дабравольныя пажарныя арганізацыі, якія існуюць на падставе зацьверджаных у законным парадку статутаў;

г) грамадзкія пасевы, прызначаныя для ўтварэньня непарушных запасаў насеньня і зробленыя сродкамі грамады на зямлі, выдзеленай з грамадзкага фонду, калі пастановы аб гэтым зарэгістраваны ў акруговым зямельным аддзеле;

д) камітэты сялянскай узаемадапамогі па страхаваньню іх уласнай маемасьці, якая скарыстоўваецца імі для ажыцьцяўленьня сваіх задач, за выключэньнем прамысловых прадпрыемстваў;

е) каляктыўныя гаспадаркі (камуны і арцелі) у такіх-жа самых разьмерах, як і па сельска-гаспадарчаму падатку (§§ 175, 176 і 209 Інструкцыі НКФ БССР пра парадак правядзеньня адзінага сельска-гаспадарчага падатку ў 1929 30 годзе);

ж) гаспадаркі, якія накрылі ў 1927-28 і 1928-29 г. г. агнятрывалымі дахамі свае будынкі—у разьмеры 50% акладу, прыпадаючага на гэтыя будынкі.

*Увага 1.* Да асоб, узятых у шэрагі Чырвонай арміі і Чырвонага флёту, у тым ліку войск ДПУ і канвойнай варты, на якіх пашыраюцца льготы па абавязковым акладным страхаваньні, належаць: а) вайскоўцы кадравага, радавога і малодшага начальніцкага складу, якія знаходзяцца на бесьперапыннай (тэрміновай) або звыштэрміновай службе, уключаючы сюды і тых, якія прызваны ўвосень 1929 г.; б) вайскоўцы сярэдняга, старшага і вышэйшага начальніцкага складу, якія знаходзяцца на кадравай службе, або ў рэзэрве; в) паказаныя ў літ. літ. „а" і „б" асобы, якія звольнены ад абавязковай службы ў кадравым складзе Чырвонай арміі і Чырвонага флёту ў доўгатэрміновы водпуск, у запас, альбо зусім ад службы пасьля 1-га сакавіка 1929 г.; г) асобы начальніцкага складу (сярэдняга, старшага і вышэйшага), узятыя ў якасьці інструктароў для правядзеньня дапрызыўнай і пазавайсковай падрыхтоўкі і на вучэбныя зборы, калі яны лічацца ў пераменным складзе тэрытарыяльных часьцей, у доўгатэрміновым водпуску і ў запасе Чырвонай арміі; д) вайскоўцы малодшага каманднага складу, якія пералічаны з доўгатэрміновага водпуску ў пераменны склад тэрытарыяльных часьцей, у выпадку іх прызыву на вучэбныя зборы.

Знаходжаньне члена сям'і на вайсковай службе правяраецца па дакумэнтах фінансавых частак раённых выканаўчых камітэтаў.

*Увага 2.* Калі сем'і чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, былыя чырвоныя партызаны і іх сем'і, або сем'і, члены якіх былі расстрэляны белапалякамі ў якасьці заложнікаў, інваліды вайны і працы 1, 2 і 3 катэгорый, уваходзяць у склад каляктыўных гаспадарак арцеляў і камун і апроч аграмаджанай гаспадаркі, маюць і свае ўласныя гаспадаркі, дык льгота даецца па ўласнай гаспадарцы ў агульным парадку, а камуне ці арцелі даецца льгота, паказаная ў пункце „е" гэтага параграфу.

*Увага 3.* Сем'і чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, былых чырвоных партызан і расстрэляных белапалякамі заложнікаў, маюць права толькі на льготы па акладу. Нядоімка мінулага году ў парадку памянёных льгот ня зьнімаецца.

*Увага 4.* Калі сем'ям чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, былым чырвоным партызанам і іх сем'ям і сем'ям рассрэляных белапалякамі заложнікаў, інвалідам вайны і працы 1, 2 і 3 катэгорый, па становішчу іх гаспадарак, льгота належыць у большым разьмеры чым паказана ў пункце „б" гэтага параграфу, альбо гэтыя гаспадаркі павінны быць вызвалены ад выплаты ўсіх акладных страхавых плацяжоў на падставе льгот бяднейшаму насельніцтву, то ў такіх выпадках яны атрымоўваюць большую льготу.

§ 8. Пасьля задаволеньня льготамі гаспадарак, паказаных у § 7 гэтай інструкцыі, вызваляюцца ад поўнай выплаты акладу бядняцкія гаспадаркі, якія вызвалены ад с.-г. падатку па неабкладанаму мінімуму.

§ 9. Рэшта льгот, якая застаецца пасьля задаволеньня гаспадарак, паказаных у §§ 7 і 8 гэтай інструкцыі, разьмяркоўваецца паміж:

а) маламоцнымі гаспадаркамі, а таксама гаспадаркамі, зруйнаванымі павальнымі бядотамі (пажар, градабіцьце, вымачкі, вымаразкі, гураган, разьводзьдзе, поўная ці частковая гібель пасеваў або сенажаці, паморак на жывёлу і крадзеж жывёлы);

б) перасяленцамі і расьсяленцамі, якія перасяляюцца і расьсяляюцца паводле правілаў аб землеўпарадкаваньні і перасяленьні на новыя месцы, калі гэтымі гаспадаркамі ў працягу часу з 1-га ліпеня 1928 г. да 1-га ліпеня 1929 году пабудаваны на новаадведзеных мясцох будынкі, патрэбныя для сталага вядзеньня гаспадаркі;

в) эміграптамі і рээміграптамі, якія вядуць сельскую гаспадарку сваёю працаю;

г) цыганамі, якія перайшлі на сталае працоўнае жыцьцё, калі яны фактычна пасяліліся на зямлі з належнага дазволу зямельных органаў не раней 1-га студзеня 1926 году і

д) працоўнымі яўрэямі, якія перасяліліся або расьсяліліся ў парадку правілаў аб землеўпарадкаваньні і расьсяленьні.

*Увага.* Льготы гаспадаркам, пералічаным у літ. літ. „г“ і „д“ гэтага параграфу, даюцца незалежна ад пабудаваньня будынкаў на мясцох новага пасяленьня.

§ 10. З пералічаных у § 9 гэтай інструкцыі гаспадарак і асоб льготы даюцца толькі тым, правы якіх на атрыманьне льгот будуць прызнаны сельскімі ці мэстачковымі камісіямі (гл. § 6 інструкцыі) у залежнасьці ад іх беднасьці і становішча гаспадаркі.

Памянёныя гаспадаркі вызваляюцца ад выплаты акладных страхавых плацяжоў цалкам ці часткова, але ня менш, чым на адну трэць.

§ 11. Калі за пералічанымі ў §§ 8 і 9 гаспадаркамі, якія будуць вызвалены ад выплаты акладу за 1929 30 г., лічыцца нядоімка страхавых пляцяжоў, дык апошняя зьмяншаецца ў тэй самай частцы або процанце як і аклад (цалкам ці часткова).

Зьнятая разам з акладам нядоімка залічаецца ў агульны фонд льгот.

§ 12. Пры вызваленьні асобных гаспадарак ад выплаты страхавых плацяжоў сельскія і местачковыя камісіі павінны кіравацца адпаведнымі сьпісамі гаспадарак, якія вызвалены ад с.-г. падатку па неабкладанаму мінімуму, маламоцнасьці, а таксама па перасяленьню і расьсяленьню.

§ 13. На вызваленыя ад выплаты страхавых плацяжоў гаспадаркі сельскімі і местачковымі камісіямі складаюцца сьпісы ў 2-х экзэмплярах, якія пасылаюцца на канчатковае зацьверджаньне раённай падатковай камісіі не пазьней 1-га верасьня 1929 г.

Пасьля зацьверджаньня сьпісаў раённай падатковай камісіяй, адзін экзэмпляр сьпісу перадаецца ў страхавое агэнцтва, а другі—зварочваецца сельскаму ці местачковаму савету і вывешваецца да агульнага ведама насельніцтва.

§ 14. Скаргі на пастановы сельскіх ці местачковых камісій могуць падавацца ў раённую падатковую камісію на працягу месяца з дня абавяшчэньня сьпісу ў сельскім ці местачковым савеце.

Пастановы раённых падатковых камісій лічацца канчатковымі.

§ 15. Калі будзе страхавая страта ў гаспадарцы, якая вызвалена ў парадку льгот цалкам ці часткова ад выплаты акладных страхавых пляцяжоў, то зьнятая сума льготы не вылічаецца з страхавой узнагароды.

§ 16. Калі страхавальнікі, якім дадзены льготы, выплацілі страхавыя плацяжы да моманту дачы ім льгот, то лішкі ўнесеных сум зварочваюцца страхавацелю.

### II. Па гарадзкім страхаваньні.

§ 17. Льготы па гарадзкім акладным страхаваньні даюцца: сем'ям чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, былым чырвоным партызанам і іх сем'ям, сем'ям, асоб расстрэляных белапалякамі ў якасьці заложнікаў, інвалідам вайны і працы, дабравольным пажарным арганізацыям, бяднейшым гаспадаркам, а таксама гаспадаркам, зруйнаваным навальнымі бядотамі—у разьмерах, якія прадугледжаны §§ 7, 8, 9, 10, 11, 15 і 16 гэтай інструкцыі.

§ 18. Для вызваленьня ад выплаты акладных страхавых пляцяжоў у гарадох складаюцца камісіі з старшыні—прадстаўніка гарадзкога савету і членаў па аднаму ад камітэту таварыства ўзаемадапамогі, абяднаньня прафэсіянальных саюзаў, страхавога агэнцтва і інспэкцыі сацыяльнага забесьпячэньня.

§ 19. Сем'ям чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, былым чырвоным партызанам і іх сем'ям і сем'ям асоб, расстрэляных белапалякамі ў якасьці заложнікаў, а таксама дабравольным пажарным арганізацыям льгота даецца пры зборы пляцяжоў.

Іншыя страхавальнікі, якія жадаюць атрымаць льготу, павінны падаваць аб гэтым заяву ў страхавое агэнцтва; тэрмін падачы заяў устанаўляецца гарадзкімі саветамі і абвяшчаецца імі да агульнага ведама.

§ 20 Страхавыя агэнцтвы павінны абавязкова правяраць матарыяльнае становішча асоб, што падалі заявы з хадайніцтвамі аб вызваленьні ад выплаты акладных страхавых плацяжоў. Пасьля праверкі гэтыя заявы з заключэньнем страхавога агэнцтва ідуць на разгляд камісіі (гл, § 18 інструкцыі).

*Увага.* Сьпісы асоб, вызваленых камісіяй ад плацяжоў, з адзнакай аб зьнятай суме, павінны быць вывешаны ў страхавых агэнцтвах для ведама насельніцтва.

Скаргі на пастановы камісій падаюцца ў прэзыдыум гарадзкіх саветаў на працягу месяца з дня абвяшчэньня пастановы.

§ 21. Льготы па гарадзкім страхаваньні павінны быць дадзены насельніцтву не пазьней 1-га лістапада 1929 году.

---

## 6. Пастанова Эканамічнае Нарады пры СНК БССР

### пра праверку электрычных лічнікаў і вымеральных трансфарматараў.

У сувязі з выданьнем ВСНГ СССР загаду № 437 за 18 лютага гэтага году аб абавязковай праверцы электрычных лічнікаў і вымеральных трансфарматараў, на падставе артыкулу 6 Палажэньня аб мерках і вагах, зацьверджанага ЦВК і СНК СССР 6/VI-1924 году („Вестник ЦИК, СНК і СТО СССР“ 1924 г., № 6, арт. 202) Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Пастанову сваю за 4 чэрвеня 1926 году пра паверку электрычных лічнікаў—скасаваць.

2. Прапанаваць ВСНГ і Беларускай Палаце Мерак і Ваг у адносінах паверкі электрычных лічнікаў і вымеральных трансфарматараў кіравацца памянёным загадам па ВСНГ СССР № 437 і апублікаваць да агульнага ведама парадак праверкі і разьмер устаноўленых за яе збораў.

Старшыня Эканамічнае Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і
Эканамічнае Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

27 ліпеня 1929 г.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра аказаньне пэдагагічным пэрсаналам юрыдычнай дапамогі насельніцтву у пытаньнях аховы інтарэсаў дзяцей.

*Акруговым і раённым інспэктарыятам народнае асьветы і ўсім дзіцячым установам сацыяльнага выхаваньня.*

Пэдагагічны і выхавальніцкі пэрсанал дзіцячых устаноў сацыяльнага выхаваньня (школ, дзіцячых дамоў, дзіц. садоў і інш.), а таксама акруговыя і раённыя (гарадзкія) інспэктары народнае асьветы ня могуць ня ведаць аб шматлікіх выпадках парушэньня правоў і інтарэсаў дзяцей, якія парушэньні вельмі часта зьяўляюцца вынікам праўнай няпісьменнасьці насельніцтва.

Напрыклад, пасьля сьмерці кармільца сям,і, які быў застрахаваны, дзеці не атрымліваюць пэнсіі, бо другі з бацькоў (матка) зусім ня ведае пра свае правы, а калі даведаецца аб гэтым, то ўжо ня можа атрымаць пэнсію з прычыны пропуску ўстаноўленага тэрміну.

Тое самае наглядаецца і ў адносінах пэнсій і дапамог па лініі сацыяльнага забесьпячэньня, а таксама ў выпадку іскаў за калецтва дзяцей альбо за сьмерць бацькоў пры няшчасных здарэньнях і інш.

Дзеці часта не атрымліваюць тае спадчыны, на якую маюць права: яны матарыяльна не забясьпечаны ў той час, як асобы, абавязаныя іх утрымоўваць, маюць выстарчальныя сродкі або заробок для выплаты алімэнтаў. Дзеці часта ня ўключаюцца ў склад таго двара і зямельнага т-ва, да якога маюць права належаць, і да часу дасягненьня працаздольнасьці не атрымоўваюць зямельнага надзелу, які даваў бы ім сродкі для жыцьця.

Ня менш часты выпадкі парушэньня Кодэксу Законаў аб Працы ў адносінах непаўналетніх: да дасягненьня імі ўстаноўленага (14-гадовага) узросту эксплёатуецца іх рабочая сіла; падросткі не атрымоўваюць той заработнай платы або адзеньня, на якое маюць права; вучні ў рамеснай і саматужнай прамысловасьці не пасылаюцца ў школу; падросткі працуюць звыш устаноўленага законам часу і г. д.

Шмат дзяцей жыве не ў бацькоў, а ў сваякоў і ў чужых, якія не зьяўляюцца іх апякунамі і не зарэгістраваны, як усынавіцелі. Гэтыя дзеці эксплёатуюцца апошнімі і нярэдкі выпадкі жорсткага абыходжаньня з дзяцьмі.

Шмат усякіх іншых паршэньняў праў і інтарэсаў дзяцей можна наглядаць у штодзённым жыцьці.

Аб усіх гэтых парушэньнях праў і інтарэсаў дзяцей і падлеткаў настаўнікі, выхавальнікі і інспэктары народнае асьветы даведваюцца ў гутарках з дзяцьмі, з іх бацькамі і сваякамі. Зразумела, што ў такіх выпадках пэдпрацоўнікі павінны па магчымасьці, аказваць дзецям хоць самую элемэнтарную юрыдычную дапамогу, якая не патрабуе асобных ведаў. Для гэтага трэба, як мінімум, азнаёміцца з Кодэксам Законаў аб Працы, з Кодэксам Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (З. З. БССР за 1927 г., № 7) і з „Правилами обеспечения в порядке социального страхования по инвалидности и по случаю потери кормильца" („Известия НКТ СССР" 1928 г., № 28-29, ст. 424).

У больш складаных выпадках юрыдычную дапамогу могуць аказваць інспэктары народнае асьветы, калегіі абаронцаў і народныя судзьдзі, з якімі ў пэдпрацаўнікоў павінна быць шчыльная сувязь.

Паведамляючы аб гэтым, Народны Камісарыят Асьветы прапануе інспэктарам народнае асьветы ужыць неабходныя захады да прыцягненьня пэдпэрсаналу да справы аказаньня юрыдычнай дапамогі дзецям і падлеткам у мэтах абароны іх правоў і інтарэсаў.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар НК Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

15 ліпеня 1929 г.
№ 24.

---

## 8. Пастанова народных камісарыятаў Асьветы, Юстыцыі і Унутраных Спраў БССР

### пра адказнасьць за непасылку дзяцей ў школы ў мясцовасьцях, дзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне.

На падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 26-Х-1927 г. „Аб парадку увядзеньня ўсеагульнага навучаньня" (прат. № 22, п. 272), Народны Камісарыят Асьветы, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць:

1. У мясцовасьцях, дзе пастановамі акруговых выканаўчых камітэтаў, альбо гарадзкіх саветаў, уведзена абавязковае ўсеагульнае навучаньне, на бацькоў і на іншых асоб, якія маюць дзяцей на сваім утрыманьні, за непасылку дзяцей адпаведнага ўзросту ў школу і за спыненьне навучаньня іх у школе як на працягу навучальнага году, так і на працягу ўсяго курсу навучаньня бяз важных прычын, накладаць адміністрацыйныя пакараньні ў форме штрафу да 100 руб., альбо прымусовых работ да аднаго месяца ў парадку п. „в" арт. 13 і арт. 20 пастановы ЦВК і СНК БССР пра парадак выданьня акр. і раён. вык. камітэтамі і гарсаветамі абавязк. пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў" (З. З. БССР 1929 г. № 11, паст. 59).

2. Важныя прычыны для непасылкі паказаных у арт. 1-м дзяцей ў школы ўстанаўляюцца мясцовымі органамі, што выдаюць пастановы аб увядзеньні абавязковага ўсеагульнага навучаньня.

3. Скасаваць абежнік народных камісарыятаў Унутраных Спраў, Асьветы і Юстыцыі БССР за 2/I-1928 г. № 5/3 „Пра адказнасьць за непасылку дзяцей у школы ў мясцовасьцях, дзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне“ (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 1).

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

За Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР *С. Яцкевіч.*

31 ліпеня 1929 г.
№ 109.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра зьмены тэрмінаў зімовага і вясновага перапынкаў у навучальных установах сацыяльнага выхаваньня.**

Для зьмены п. 3 пастановы свае за 28 лістапада 1928 г. № 22 „Пра зімовы і вясновы перапынак у школьных установах БССР“ (Бюл. СНК БССР № 15(58) 1928 г.) у частцы, што датычыць школьных установ сацыяльнага выхаваньня, Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

Вызначыць наступныя тэрміны перапынкаў на працягу нармальнага навучальнага году на агульна-адукацыйных курсах, у спэцыяльных клясах, у Цэнтральнай Дасьледчай Школе, у школах 2-й ступені і 9-цігодках, у чатырохгадовых працоўных школах у гарадох і мястэчках, па ўсіх 7-гадовых працоўных школах і школах сялянскай моладзі:

1) з 4 па 11 лістапада ўключна,
2) з 20 па 26 студзеня „
3) з 1 па 7 красавіка „

*Увага.* У чатырохгадовых вясковых школах перапынак з 1 па 7 студзеня ўключна.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

За Сакратара НК Асьветы БССР *М. Пуцыковіч.*

14 жніўня 29 г.
№ 10.

---

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра зьмены тэрмінаў пачатку і заканчэньня навучальнага году ў навучальных установах сацыяльнага выхаваньня.**

Для зьмены п. п. 1 і 3 арт. 1 пастановы свае за 23 лютага 1929 г. № 50 „Пра тэрміны пачатку і заканчэньня навучальнага году ў навучальных установах БССР“ (Бюл. СНК БССР № 3/621 1929 г.), Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

Устанавіць наступныя тэрміны пачатку і заканчэньня навучальнага году на агульна-адукацыйных курсах, у спэцыяльных клясах, у Цэнтральнай Дасьледчай Школе, у вопытна-практыкавальных школах пры

пэдагагічных тэхнікумах і пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, у 4-х гадовых працоўных школах у гарадох і мястэчках, па ўсіх 7-гадовых працоўных школах, у школах 2-й ступені і 9-ці годках і школах сялянскай моладзі:

Пачатак навучальнага году—5 жніўня.

Канец навучальнага году—5 чэрвеня.

*Увага.* 1. З 5-го да 15 жніўня у пералічаных вышэй навучальных установах праводзіцца падрыхтоўчая арганізацыйная праца, а з 1 да 5 чэрвеня—настаўніцкія конфэрэнцыі. Нармальныя заняткі адбываюцца з 15/VIII да 1/VI.

2. Як выключэньне, пачатак надыходзячага 1929/30 навучальнага году у вышэй пералічаных установах пакінуць 15 жніўня (з 15 да 25 жніўня падрыхтоўчая праца і з 25 жніўня—нармальныя заняткі).

3. У чатырохгадовых вясковых школах тэрміны пачатку і заканчэньня навучальнага году застаюцца бяз зьмен—пачатак навучальнага году 1/IX і канец—1/VI.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

За Сакратара НК Асьветы БССР *М. Пуцыковіч.*

10 жніўня 1929 г.
№ 111

---

Зацьверджана Калегіяй НК Асьветы БССР 24 студзеня 1929 г. (прат. № 49).

## 11. Палажэньне аб стыпэндыях і стыпэндыяльных камісіях пры 2-м канцэнтры сямігадовых працоўных школ.

1. Для таго, каб мець магчымасьць аказваць матарыяльную дапамогу дзецям батракоў і бяднейшага сялянства, а ў яўрэйскіх школах—дзецям местачковай беднаты, у 2-ім канцэнтры сямёхгадовых працоўных школ устанаўляюцца фонды для выдачы стыпэндый.

2. Стыпэндыяльныя фонды ўтвараюцца як са сродкаў, адпушчаных па бюджэту, так і з спэцыяльных асыгнаваньняў гаспадарчых органаў і грамадзкіх арганізацый для гэтай мэты.

3. Разьмер стыпэндыі вызначаецца кожны год НКА БССР па ўзгадненьні з НКФ і праводзіцца па бюджэту.

На 1928/29 г. разьмер кожнай стыпэндыі вызначан у 25 р. на год.

4. Для разьмеркаваньня стыпэндыі і для нагляду за правільным іх скарыстаньнем пры школах арганізуюцца стыпэндыяльныя камісіі ў склад якіх ўваходзяць: загадчык установы (старшыня камісіі) і прадстаўнікі (па аднаму) ад раёнага выканаўчага камітэту, райкому КП(б)Б, райкому ЛКСМБ, раённага камітэту ўзаемадапамогі, саюзу Сельгаслесрабочых, калі школа знаходзіцца ў раённым цэнтры, а калі на вёсцы, то ад сельскага савету, ячэйкі КП(б)Б, ячэйкі ЛКСМБ і сельскага камітэту ўзаемадапамогі, а таксама па аднаму прадстаўніку ад бацькоў, школьнай рады і вучнёўскага камітэту.

5. Стыпэндыі могуць быць выдадзены толькі на набыцьцё адзеньня, абутку, або на харчаваньне.

6. Стыпэндыі выдаюцца адзначаным у п. 1 асобам у залежнасьці ад іх матарыяльнага стану.

*Увага.* Пры аднолькавых матарыяльных умовах дзяцей аднэй і тэй-жа сацыяльнай катэгорыі зьвяртаецца ўвага на лепшую пасьпяховасьць кандыдата.

7. Стыпэндыяльныя камісіі прыступаюць да працы зараз-жа пасьля атрыманьня вестак аб асыгнаваньні школам стыпэндыяльных сродкаў.

8. Стыпэндыі зьяўляюцца беззваротнай дапамогай. Выдадзеная стыпэндыя ня можа быць аднята ад вучня.

9. Стыпэндыі выдаюцца на падставе маючыхся ў справах школы дакумэнтаў аб матарыяльным і сацыяльным стане вучняў.

10. Сваю пастанову аб выдачы стыпэндый камісія запісвае ў пратакол і афармляе па дакумэнтах школы.

11. Усе скаргі на пастановы стыпэндыяльнай камісіі вырашае раённы інспэктар народнае асьветы.

Інспэктар НК Асьветы БССР *М. Жыгмунт.*

Сакратар і Юрысконсульт НК Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

---

## 12. Загад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

### пра абавязковую пэрыядычную праверку і кляйменьне вадамераў

Для забясьпечаньня на ўсёй тэрыторыі БССР правільнасьці разьлікаў за ваду, улічваемую вадамерамі, і на падставе арт. 6 Палажэньня пра меры і вагі за 6/VI-1924 г. („Вест. ЦИК, СНК і СТО СССР“ 1924 г., № 6, арт. 202) і пастановы Прэзыдыуму ВСНГ СССР аб абавязковай праверцы і кляйменьні вадамераў за 16/I-1929 г. (Зборнік пастановў і загадаў па прамысловасьці за 1928/1929 г.), Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР пастанаўляе:

1. Усе вадамеры, служачыя для разьліку за ваду, падлягаюць абавязковай пэрыадычнай праверцы і кляйменьню.

2. Праверка і кляйменьне вадамераў праводзіцца на падставах, устаноўленых Палажэньнем аб мерах і вагах, Беларускай Палатай Мерак і Вагаў, паводле правіл і інструкцый, што выдаюцца ВСНГ СССР (па Галоўнай Палаце Мерак і Вагаў СССР).

3. Праверка вадамераў Беларускай Палатай Мерак і Вагаў праводзіцца:

а) у Палаце і яе аддзяленьнях: б) у прадпрыемствах, што займаюцца эксплёатацыяй, вытворчасьцю і рамонтам вадамераў;

У гэтым выпадку адзначаныя прадпрыемствы павінны мець належнае праверачнае абсталяваньне і быць зарэгістраванымі ў Беларускай Палаце Мерак і Вагаў.

4. Абавязковая праверка ўводзіцца для вадамераў:

а) уноў паступаючых у эксплёатацыю як новых, так і выходзячых з рамонту;

б) ужо знаходзячыхся ў эксплёатацыі.

5. Парадак ажыцьцяўленьня на мясцох мерапрыемстваў па ўвядзеньню абавязковай праверкі вадамераў, на падставе гэтай пастановы, устанаўляецца абавязковымі пастановамі акр. вык. камітэтаў, выданымі па хадайніцтву Беларускай Палаты Мерак і Вагаў, па таксах, паказаных пастановай ВСНГ СССР і НКФ СССР за 8/II-1929 г. № 289 („Изв. НКФ СССР“ за 21/II-1929 г., № 20).

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *Б. Баль.*

Сакратар ВСНГ БССР *А. Лучышын.*

20 ліпеня 1929 г.
№ 252.

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра льготы па прамысловым падатку на 1929/30 г.

На падставе арт. 41 Палажэньня пра дзяржаўны прамысловы падатак за 10/VIII-1928 г. (З. З. СССР 1928 г., № 50, арт. 443), Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929/30 годзе: а) мэліарацыйныя таварыствы і таварыствы агнятрывалага будаўніцтва, пры ўмове, калі статутам гэтых таварыстваў прадугледжана, што яны маюць права займацца толькі апэрацыямі, зьвязанымі з мэліарацыяй і агнятрывалым будаўніцтвам; б) вытворчыя прадпрыемствы пры гэтых таварыствах у тым выпадку, калі прадукцыя іх вытворчасьці ідзе выключна на абслугоўваньне работ у справе мэліарацыі і вясковага будаўніцтва каапераванага насельніцтва.

2. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929/30 г. наступныя заклады і прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў падпарадкаваньні органаў сацыяльнага страхаваньня і сацыяльнае забясьпекі альбо арандуюцца імі, пры ўмове непасрэднай эксплёатацыі, бяз здачы ў арэнду: а) дамы адпачынку, інвалідныя ўстановы, санаторыі, дэзынфэкцыйныя камэры і іншыя санітарна-гігіенічныя заклады; б) транспартныя прадпрыемствы, якія абслугоўваюць выключна пералічаныя ў п. „а“ установы і заклады, а таксама лекавыя заклады, якія эксплёатуюцца непасрэдна органамі сацыяльнага страхаваньня і забясьпекі, в) прадпрыемствы па загатоўцы і вырабу рэчаў задавальненьня паказаных у п. “а“ устаноў і закладаў, а таксама лекавых устаноў, паказаных у п. „б“, калі яны не прадаюць гэтых рэчаў на старану.

3. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929/30 г. наступныя заклады, якія непасрэдна эксплёатуюцца сялянскімі таварыствамі ўзаемадапамогі і выключна абслугоўваюць сельска-гаспадарчыя патрэбы мясцовага сялянскага насельніцтва: майстэрні для рамонту сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, пракатныя пункты, пункты для ачышчэньня збожжа, пункты для злучкі і кузьні. Аклады прамысловага падатку з чайных і сталовых (бяз гандлю моцнымі напіткамі, у тым ліку і півам), якія непасрэдна эксплёатуюцца сялянскімі таварыствамі узаемадапамогі, паменшыць на 25%.

4. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929/30 г. прадпрыемствы дамоў селяніна для абслугоўваньня іх кліентаў: гасьцініцы, пастаялыя двары, чайныя і сталовыя (бяз продажу моцных напіткаў, у тым ліку і піва), лазьні, пральні, паказальныя выстаўкі і гаспадаркі, пракатныя пункты, майстэрні для рамонту сельска-гаспадарчых машын і прыладаў і кніжныя крамы—пры ўмове, калі гэтыя прадпрыемствы эксплёатуюцца непасрэдна, бяз здачы ў арэнду. Пры абслугоўваньні пералічанымі прадпрыемствамі ня толькі кліентаў дому селяніна, а і іншых асоб, яны падлягаюць абкладаньню толькі па апэрацыях па абслугоўваньню іншых асоб.

5. Вызваліць ад прамысловага падатку у 1929/30 г. вытворчыя прадпрыемствы добравольных пажарных таварыстваў і дружын, якія эксплёатуюцца імі непасрэдна бяз здачы ў арэнду, і абслугоўваюць выключна патрэбы таварыстваў (дружын), напрыклад, майстэрні для рамонту абозу, які належыць таварыству (дружыне) і г. д.

6. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929/30 г. вытворчыя прадпрыемствы добравольных таварыстваў ратаваньня на вадзе, якія эксплёатуюцца імі непасрэдна, бяз здачы ў арэнду, і абслугоўваюць

выключна патрэбы гэтых таварыстваў (напр. майстэрні для рамонту суднаў, якія належаць таварыству, і г. д.).

7. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929-30 г.: а) публічныя спартыўна-гімнастычныя спаборніцтвы і пацехі, якія арганізуюцца школамі, грамадзкімі арганізацыямі, зарэгістраванымі ў саветах фізычнай культуры, і прафэсыйнымі арганізацыямі; б) спартыўныя прадпрыемствы (каткі, лыжныя станцыі, пляцоўкі і інш.), якія знаходзяцца ў падпарадкаваньні саветаў фізычнай культуры, прафэсійных і каперацыйных арганізацый; в) заклады для гульні ў шашкі і шахматы.

8. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929-30 г. установы і прадпрыемствы, якія эксплёатуюцца непасрэдна, бяз здачы ў арэнду, камісіямі па паляпшэньні жыцьця дзяцей пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце і акруговых выканаўчых камітэтах, а таксама таварыствам „Прыхільнік дзяцей“: а) навучальна-вытворчыя майстэрні, а таксама гандлёвыя прадпрыемствы, якія прадаюць выключна вырабы гэтых майстэрняў; б) сталовыя і чайныя бяз продажу моцных напіткаў (у тым ліку і піва); в) усе іншыя прадпрыемствы, зварот якіх не перавышае 20.000 руб., калі яны адчынены з дазволу Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў альбо прэзыдыуму акруговага выканаўчага камітэту.

Аклады прамысловага падатку з прадугледжаных п. „в“ прадпрыемстваў, гадовы зварот якіх больш як 20.000 руб., паменшыць на 25 проц.

*Увага.* Біліярдныя заклады падатковымі льготамі не карыстаюцца.

9. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929-30 г. эксплёатуемыя непасрэдна, бяз здачы ў арэнду, вытворчыя майстэрні пры Савеце Сацыяльнай Дапамогі і Аддзеле Мацяры і Дзіцяці Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Савеце па барацьбе з прастытуцыяй і іх мясцовых органах, а таксама гандлёвыя прадпрыемствы, якія прадаюць выключна вырабы гэтых майстэрняў.

10. Паводле арт. 149 Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР (З.З. БССР 1926 г. № 52, арт. 202), вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929-30 г. майстэрні і прамысловыя прадпрыемствы, што ўтрымліваюцца месцамі зьняволеньня, у якіх праца праводзіцца вязьнямі, пры ўмове дапушчэньня інструктарскага пэрсаналу ў ліку ня звыш 10 проц. да агульнага ліку працуючых у кожным прадпрыемстве.

11. Вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929-30 г. Менскі Гарадзкі Камітэт Таварыства Ўзаемадапамогі па складу для збору рызьзя і касьцей у г. Менску.

12. Паводле прапановы Савету Народных Камісараў БССР за 2/IV 1928 г. (пратакол распарадчага паседжэньня № 50), вызваліць у 1929-30 г. ад прамысловага падатку распрацоўкі торпу, якія праводзяцца ў межах БССР дзяржаўнымі ўстановамі і каперацыйнымі арганізацыямі, у частцы рэалізацыі прадукцыі тых рабочых, якія працуюць ня больш як 2 гады.

13. Паводле пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 3/XII 1928 г. (пратакол № 41, § 3, п. 5), вызваліць ад прамысловага падатку ў 1929-30 г. чайныя спажывецкія капярацыі, якія знаходзяцца пад кіраўніцтвам і кантролем паявога таварыства „Нарпіт“ і не прадаюць моцных напіткаў (у тым ліку і піва).

14. Паводле пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 7/III 1927 г. (пратакол № 6, п. 5), пацьверджанай Саветам Народ-

ных Камісараў БССР 24/IV 1929 г. (пратакол № 89), захаваць за прадпрыемствамі працкалектываў, арганізаваных органамі Народнага Камісарыяту Працы, якія перадаюцца гаспадарчым органам, на працягу году ад дня перадачы тыя падатковыя льготы, якімі яны карысталіся ў час перадачы.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

1 жніўня 1929 г.
№ 55.

---

## 14. Палажэньне пра зону санітарнае аховы месц забесьпячэньня вадою.

1. Зона санітарнае аховы водных крыніц павінна быць устаноўлена пры ўсіх вадаправодах як тых, якія знаходзяцца ў карыстаньні, так і тых, якія толькі праектуюцца, або будуюцца—камунальных, фабрычназаводзкіх, чыгуначных, воднага транспарту—якія служаць для піцьцявога і гаспадарчага забясьпячэньня вадою насельніцтва гарадоў, рабочых пасёлкаў і іншых заселяных месц.

2. Зона санітарнае аховы водных крыніц устанаўляецца пры ўсіх вадаправодах, як тых, якія бяруць ваду з адкрытых крыніц: рэк, вазёр і іншых адкрытых водаёмаў, так і падземных—крыніцы, ключы артэзыянскія і іншыя шчыліны і інш.

3. Зона санітарнае аховы водных крыніц мае мэтай захоўваць ваду ад забруджваньня і зьмены як якаснага, так і колькаснага яе складу, а таксама самых будынкаў вадаправоду і мясцовасьці ад усякіх зьмен і парушэньняў, якія могуць шкодна адбіцца на якасьці і складзе падаваемай вады.

4. У зону санітарнае аховы ўваходзяць крыніцы забесьпячэньня вадою, пабудовы, маючыя дачыненьне да вадаправоду, вадаправод і ўся мясцовасьць з воднымі крыніцамі і воднымі пабудовамі.

5. Зоны санітарнае аховы ў залежнасьці ад тых мерапрыемстваў, якія праводзяцца, і характару санітарнага нагляду ўстанаўляюцца наступныя:

а) зона суровага рэжыму,
б) зона абмежаваньня,
в) зона нагляду.

### А. Зона суровага рэжыму.

6. Зона павінна ахапляць крыніцу забесьпячэньня вадою ў месцах забора вады для вадаправоду, водныя пабудовы (насосныя станцыі, ачышчальныя ўстаноўкі—каазулянты, фільтры і інш.) і тэрыторыю, якая знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з імі, пры гэтым уся тэрыторыя, якая ўваходзіць у склад зоны, павінна быць абгароджана.

7. У межах зоны ўсякае пражываньне павінна быць забаронена і можа быць дапушчана ў крайніх выпадках для служачых і рабочых вадаправоду, пасьля асобнага абгаварэньня гэтага пытаньня органамі аховы здароўя і камунальнае гаспадаркі, пры гэтым усе пражываючыя ў межах зоны павінны быць падпарадкаваны ўсім спэцыяльна выданым санітарным правілам.

8. У межах зоны дазваляецца будаваць толькі тыя будынкі, якія маюць непасрэднае дачыненьне да вадаправоду і яго ачышчальных пабудоў. Пры гэтым усякае будаўніцтва і іншыя мерапрыемствы павінны праводзіцца з дазволу і пад непасрэдным наглядам санітарнага доктара.

9. Для ўсяе тэрыторыі зоны ўстанаўляюцца правілы ўнутранага парадку, пры гэтым права ўваходу на тэрыторыю зоны староннім асобам даецца з асобнага дазволу загадчыка вадаправоду. У выпадку санітарнае небясьпекі санітарны доктар можа забараніць уваход у зону праз загадчыка вадаправоду.

10. Работа вадаправоду і яго ачышчальных пабудоў павінна рэгулявацца спэцыяльнымі правіламі, выпрацаванымі пры ўдзеле санітарнага доктара, мець адпаведны падлік работы і знаходзіцца пад сталым кантролем тэхнічнага пэрсаналу, санітарнага доктара і лябараторыі.

11. Па лябараторнаму кантролю павінен быць устаноўлен парадак браньня проб для аналізу, месца і час іх браньня, лік аналізаў і парадак асьведамленьня аб аналізах санітарнага доктара і загадчыка вадаправоду, парадак лябараторнага дасьледваньня пры кантроле хлёраваньнем, каакуляцыяй і г. д.

## Б. Зона абмежаваньня.

12. Зона павінна ахапіць крыніцу, з якое забірае ваду вадаправод, а таксама і іншыя водныя крыніцы, якія маюць уплыў на колькасны і якасны склад вады і могуць унесьці ў яе забруджваньне, а таксама тэрыторыю, якая агараджае гэтыя крыніцы. Межы зоны павінны быць добра вызначаны.

13. Для ўстанаўленьня межаў зоны і вывучэньня неабходных абмежаваньняў, павінна быць праведзена дэтальнае санітарнае і санітарнатэхнічнае абсьледваньне пры ўдзеле адпаведных установ і асобных спэцыялістых. Плян гэтага дасьледваньня павінен быць папярэдня абмеркаваны інспэктурай аховы здароўя сумесна з іншымі зацікаўленымі ўстановамі (Камгас, СНГ, зямельныя органы і інш.).

14. У межах зоны павінны быць ўведзены пэўныя санітарныя правілы, паводле якіх выключаецца магчымасьць забруджваньня водных крыніц і глебы на тэрыторыі зоны. Пры гэтым трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на ахову ад забруджваньня водных крыніц сьцёчнымі водамі, усякага роду сьцёкамі, адкідамі, паласканьнем скур, мочкаю лёну і канапель, купаньнем людзей і жывёлы, сьціркай бялізны, сплавам плытоў, а таксама ўсмактваючымі ямамі і пакінутымі сьвідраванымі шчылінамі, распроцоўкамі нетраў і г. д. Зьвярнуць увагу на магчымасьць забруджваньня водных крыніц праз забруджваньне глебы ад звальваньня бруду і адкідаў, праз угнаеньне гародаў і палёў гноем і праз змыў апошніх у водныя крыніцы, праз масавае нерэгулярнае засяленьне бяз ужыцьця патрэбных санітарных захадаў для выдаленьня і абязшкоджваньня нячыстот і адкідаў (дачныя пасёлкі, дамы адпачынку і інш.), праз пабудову забруджваючых глебу саматужна-прамысловых установ (клеяварных, скурных заводаў, складаў, боен і г. д.), праз пабудову застаў, якія зьмяняюць цячэньне водных крыніц, няправільнае сьвідраваньне і скарыстоўваньне артэзыянскіх крыніц і г. д.

15. У межах зоны усе праекты і пляны работ павінны разглядацца і зацьвярджацца санітарнай арганізацыяй.

16. У межах зоны павінен весьціся рэгулярны санітарны нагляд і лябараторны кантроль за ўсімі сьцёкамі ў водныя крыніцы, нагляд за работай ачышчальных пабудоў па ачыстцы сьцёчных вод (біолёг. станцый, палёў абвадненьня і фільтрацыі, установак па хлёраваньню).

Парадак лябараторных дасьледваньняў, час і месца браньня проб для аналіза вызначаюцца санітарным наглядам.

## В. Зона нагляду.

17. Зона нагляду ўключае тэрыторыю, сумежную з зонай абмежаваньня, якая мае сувязь з зонай абмежаваньня, так і з зонай суровага рэжыму і рабочымі, працуючымі на вадаправодзе. Зона гэтая можа толькі ўкосна пры вядомых няспрыяючых умовах узьнікненьня эпідэмій (занос пошасных хвароб і г. д.) зрабіць уплыў на водную крыніцу, якая павінна захоўвацца.

18. У межах зоны ніякія абмежаваньні ня ўводзяцца і толькі ўстанаўляецца ўзмоцнены санітарна-эпідэміолёгічны нагляд за воднымі хваробамі (халера, тыфус, крываўка і інш.).

19. Межы зоны санітарнай аховы і асобных яе частак, паказаных у п. п. „А“, „Б“, „В“, вызначаюцца ў залежнасьці ад характару водных крыніц (павярхоўныя і падземныя воды), іх магутнасьці, хуткасьці і напрамку іх цячэньня, рэльефу мясцовасьці, гэолёгіі і гідрагэолёгіі, шчыльнасьці насельніцтва, бытавых і эканамічных умоў насельніцтва і яго заняткаў, разьвіцьця прамысловасьці і гандлю, шляхоў і г. д. Межы зоны санітарнай аховы для адкрытых вод—рэкі і інш., вызначаюцца ня толькі месцамі, што знаходзяцца вышэй па цячэньню вады, але і ніжэй, прымаючы пад увагу сувязь гэтае мясцовасьці з насельніцтвам, якое жыве вышэй месца забору вады.

20. Межы зоны санітарнай аховы пры кожным вадаправодзе вызначаюцца паасобна, пасьля дэтальнага ўсебаковага вывучэньня. Межы зоны санітарнай аховы могуць быць зьменены пасьля атрыманьня новых санітарных і санітарна-тэхнічных матарыялаў. Калі зоны некалькіх вадаправодаў сумежны паміж сабой, яны могуць быць аб'яднаны ў адну.

21. Для правядзеньня папярэдняга і бягучага санітарнага нагляду ў межах зоны, інспэктура аховы здароўя вылучае санітарнага доктара, на якога ўскладаюцца наступныя абавязкі:

а) вывучэньне водазборных крыніц вадаправоду ў санітарных, гідралёгічных і інш. адносінах;

б) вывучэньне і абсьледваньне ўсіх заселеных месц (рабочыя і дачныя пасёлкі), устаноў, больніц, санаторый, дамоў адпачынку, дзіцячых дамоў і інш. прадпрыемстваў (фабрыкі, заводы і г. д.) у адносінах іх уплыву на колькасны і якасны склад вады крыніц зоны;

в) на грунце мясцовых назіраньняў і дасьледваньняў вызначае пэўныя патрабаваньні ачысткі і абязшкоджваньня сьцёчных вод і адкідаў і сочыць за няўхільным і своечасовым правядзеньнем гэтых патрабаваньняў у жыцьцё;

г) вядзе строгі падлік усіх пабудоў для ачысткі сьцёчных вод і ачышчальных сродкаў;

д) забараняе ў межах зоны пабудову фабрык і заводаў і правядзеньне іншых работ, якія могуць шкодна адбіцца на ахоўваемай тэрыторыі і на зьмене колькаснага і якаснага складу водных крыніц;

*Увага.* Пабудова студняў для сьцёку вод на тэрыторыі зоны строга забараняецца, а пабудаваныя раней павінны быць зачынены.

е) вядзе дакладны падлік усіх сьвідраваных шчылін на тэрыторыі зоны і сочыць за іх правільным скарыстаньнем;

ж) папярэдня разглядае праекты ўсякага роду будаўніцтва і іншых мерапрыемстваў, якія тычацца вадаправоду і без яго згоды і заключэньня ніякія мерапрыемствы ў межах зоны ня могуць праводзіцца;

з) праводзіць санітарны нагляд і кантроль за санітарным станам вадаправоду і яго пабудовай на тэрыторыі, за работай ачышчальных пабудоў, за колькасьцю дастаўляемай насельніцтву вады і г. д.

*Увага.* Кантроль за работай вадаправоду і якасьцю вады павінен грунтавацца на лябараторных даных.

22. Усе пытаньні па арганізацыі, вызначэньні і ажыцьцяўленьні зоны санітарнай аховы крыніц, вадаправодных пабудоў і мясцовасьці, якія іх ахапляюць, распрацоўваюцца санітарнай арганізацыяй Нар. Кам. Аховы Здароўя разам з аддзеламі камунальнае гаспадаркі і пры ўдзеле прадстаўнікоў іншых зацікаўленых ведамстваў і ўстаноў.

*Увага.* Пры вызначэньні зоны санітарнае аховы водных крыніц вадаправодаў фабрык і заводаў, якія працуюць адначасова для піцьцёвых і гаспадарчых патрэб насельніцтва, прымаюць удзел зацікаўленыя органы.

23. Пры вадаправодах, якія будуюцца альбо праектуюцца, зона санітарнай аховы ўстанаўляецца з моманту пабудаваньня адпаведных крыніц, пры гэтым усе работы зьвязаныя з устанаўленьнем зоны, уваходзяць, як неабходная частка, у складаньне праекту вадаправоду.

24. Пры складаньні праектаў пляніроўкі гарадоў, рабочых дамоў, пасёлкаў і інш. населеных месц, павінна быць вылучана зона санітарнай аховы водных крыніц.

25. Прымаючы пад увагу мясцовыя асаблівасьці, на аснове гэтага палажэньня і для разьвіцьця яго, мясцовымі выканаўчымі камітэтамі выдаюцца адпаведныя абавязковыя пастановы, праекты якіх распрацоўваюцца санітарнай арганізацыяй разам з камунальнымі органамі.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

28 чэрвеня 1929 г.
№ 83.

---

*Дадатак.*

**Інструкцыя для вызначэньня зоны санітарнай аховы месц забесьпячэньня вадою, якія служаць для вадазабесьпячэньня гарадоў, пасёлкаў і іншых населеных месц.**

На падставе палажэньня НКАЗ і НКУС БССР за 28/VI-1929 г. неабходна ўстанавіць зону санітарнае аховы водных крыніц ва ўсіх населеных месцах, дзе маюцца вадаправоды, альбо дзе яны будуюцца і праектуюцца. Зона санітарнай аховы павінна быць устаноўлена таксама і для тых адкрытых водных крыніц, якія хоць і ня маюць вадаправоду, але служаць насельніцтву ў значнай ступені для вадазабесьпячэньня (рэкі, вазёры, пруды і інш.). Паводле адзначанага палажэньня неабходна правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Акруговым інспэктурам аховы здароўя, пры дапамозе мясцовых органоў камунальнае гаспадаркі і органаў савету народнай гаспадаркі,

а таксама органаў Наркамзему, правесьці дакладны падлік усіх вадаправодаў (гарадзкіх, местачковых, фабрычна-заводзкіх і інш.), а таксама водных крыніц, якія дастаўляюць насельніцтву ваду як для піцьця, так і для гаспадарчых патрэб.

2. Акруговым сандактарам пры удзеле тэхнічнага пэрсаналу камунальных органаў (для фабрычна-заводзкіх вадаправодаў—тэхнічных органаў Сав. Нар. Гаспадаркі), пры удзеле сан.-бакт. лябараторый і інстытутаў правесьці дакладнае санітарнае і санітарна-тэхнічнае дасьледваньне ўсіх вадаправодаў і ачышчальных пабудоў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на месцы забору вады для вадаправодаў.

3. Распрацаваць на падставе атрыманых матарыялаў санітарнага і санітарна-тэхнічнага абсьледваньня вадаправодаў і водных крыніц плян бліжэйшых аздараўляючых мерапрыемстваў і вызначыць зоны санітарнае аховы паводле памяненага палажэньня.

4. У межах зоны санітарнай аховы павінна быць зьвернута ўвага на прадпрыемствы па лініі камунальных і іншых зацікаўленых дабрабытам насельніцтва органаў. Апошнія павінны добра ведаць мэты ўстанаўленьня зоны і ўсю адказнасьць мерапрыемстваў, якія праводзяцца.

5. У межах зоны павінна быць зьвернута увага на санітарнае выхаваньне насельніцтва і сувязь санітарных органаў з прадстаўнікамі жылкапярацыі, прафсаюзаў і інш. арганізаваных груп савецкае грамадзкасьці.

6. На кожную зону санітарнай аховы крыніц вадазабясьпячэньня павінен быць санітарны сшытак, куды запісваюцца сучасны санітарны стан і ўсе далейшыя мерапрыемствы і зьмены.

Нар. Кам. Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Інспэктар Сан.-Эпід. Справы НКАЗ БССР *Магілеўчык.*

---

## 15. Абежнік народных камісарыятаў Аховы Здароўя і Ўнутраных Спраў БССР

### пра выдачу пасьведчаньняў на права карыстаньня дадатковай па хваробе жылою плошчаю.

У дадатак да сьпісу хвароб, якія даюць асобам, хварэючым імі, права на дадатковы пакой ці дадатковую жылую плошчу, народныя камісарыяты Аховы Здароўя і Ўнутраных Спраў БССР прапануюць для няўхільнага кіраваньня і выкананьня наступнае:

1. Агляд грамадзян для ўстанаўленьня дыагназу хваробы на права атрыманьня дазволу на карыстаньне дадатковаю жылою плошчаю або паасобным пакоем праводзіцца ў акруговых гарадох—дыспансэрам, бюро доктарскай экспэртызы або клінікай, а ў раёнах—дыспансэрамі або раённымі больніцамі, сурова прытрымліваючыся намэнклатуры хвароб паводле сьпісу.

2. Выдача пасьведчаньняў на права карыстаньня дадатковаю жылою плошчаю або паасобным пакоем праводзіцца ў акруговых гарадох—акруговымі інспэктарамі аховы здароўя, а ў раёнах—раённымі дактарамі з строгім улічваньнем патрэбы мець дадатковую плошчу, прымаючы пад увагу сур'ёзнасьць, цяжкасьць і заразьлівасьць хваробы, сацыяльнае становішча, эканамічна-бытавыя і кватэрныя ўмовы, маючы на ўвазе існуючы жыльлёвы крызіс.

3. Пасьведчаньні павінны быць часовыя, на пэўны тэрмін, але ня больш чым на адзін год. Тэрмін можа быць прадоўжаны толькі пасьля новага агляду.

4. Усе грамадзяне, якія атрымалі пасьведчаньні на права карыстаньня дадатковаю жылою плошчаю або паасобным пакоем па хваробе раней, павінны быць паўторна абгледжаны ў тэрмін, устаноўлены гарадзкім саветам.

За Народнага Камісара Аховы Здароўя БССР *Граеўская.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

27 жніўня 1929 г.
№ 80.

---

## 16. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра спыненьне заключэньня дагавароў на здачу млыннымі прадпрыемствамі памольнага збору.

На падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 24/IV-1929 г. (прат. № 89, п. 1852) аб спыненьні заключэньняў дагавораў на здачу млыннымі прадпрыемствамі памольнага збору, Народны Камісарыят Гандлю і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Скасаваць ўсе дагаворы, заключаныя з млыннымі прадпрыемствамі на здачу апошнімі памольнага збору ў часьці, якая прадугледжана гэтымі дагаворамі для здачы пасьля 1-га ліпеня 1929 г.

2. Нязданы да 1 ліпеня 1929 г. абумоўлены па дагаворах памольны збор, а таксама колькасьць памольнага збору, якая вызначана для здачы млыннымі прадпрыемствамі з 1-га ліпеня 1929 г. паводле ўручаных млынным прадпрыемствам паведамленьняў,—падлягае абавязковай здачы, паводле пастановы СНК БССР за 23/I 1929 г. (З. З. БССР 1929 г., № 3, арт. 18).

3. Пастанову НК Гандлю БССР за 27/IX-1928 г. № 55 у зьвязку з пастановамі СНК БССР за 24/IV 1929 г. і за 26/VI 1929 г.—лічыць скасаванай.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Ч. в. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *М. Гохман.*

20 ліпеня 1929 г.
№ 36.

---

## 17. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра ўстанаўленьне мінімальных гранічных загатоўчых цэн на лом чорных мэталяў.

Для выкананьня пастановы Нар. Кам. Гандлю СССР за 10/VII 1929 г. Нар. Кам. Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для ўсіх прадпрыемстваў, арганізацый і асоб, якія загатаўляюць лом чорных мэталяў праз збор яго ад гарадзкога і сель-

скага насельніцтва, паказаныя ніжэй мінімальна-гранічныя цэны франка склады загатоўшчыкаў у сельскіх і гарадзкіх мясцовасьцях, не на чыгуначных станцыях ці прыстанях машына-суднаходных рэк:

а) жалеза-стальн. лом гарбарытны . . . . . . 18 р. за тону
б) „ „ „ негарбарытны . . . . . 12 „ „
в) старое дахав. жалеза і яго абрэзкі і стружка жал.-ст. (у непак. відзе) . . . . . . . . . . 6 „ „
г) чыгун. лом негарэлы гарбарытны . . . . . 28 „ „
д) „ „ „ негарбарытны . . . . 23 „ „
е) „ „ гарэлы . . . . . . . . . . . . . . 18 „ „

*Увага* 1. Гарбарытным жалеза-стальным ломам лічыцца лом, які па сваіх разьмерах не перавышае 1000 × 4000 × 400 м/м з вагой ня больш 0,5 тон. Гарбарытным чыгунным ломам лічыцца лом у аб'ектах вагай ня больш 0,5 тон.

2. Лом жалеза і сталі таней 3 м/м прымаецца па цане дахавага жалеза. Паказаныя цэны не распаўсюджваюцца на лом лужанага, эмалір., ацынкован. ці пакрашанага медзянкай мэталю, а таксама шлак, акаліны і г. д., бескарысныя ці шкодныя для мэталёвай вытворчасьці.

2. Увесь зьбіраемы мэталёвы лом павінен здавацца А/Т-ву Рудмэталгандаль, які абавязаны прымаць яго франка-склады чыгункі ці прыстані машына-судаходных рэк па наступных цэнах:

а) жалеза-стальн. лом гарбарытны . . . . . . 30 р. за тону
б) „ „ „ негарбарытны . . . . . 23 „ „
в) старое дахав. жалеза і яго абрэзкі і стружка жал.-ст. (у непак. відзе) . . . . . . . . . . 14 „ „
старое дахав. жалеза і яго абрэзкі і стружка жал.-ст. (у пакет. відзе) . . . . . . . . . . 18 „ „
г) чыгун. лом негарэлы гарбарытны . . . . . 40 „ „
д) „ „ „ негарбарытны . . . . 35 „ „
е) „ „ гарэлы . . . . . . . . . . . . . . 30 „ „

*Увага,* 1. Увесь лом можа быць зданы франка-вагон, за што да цэн 2-га пункта прыбаўляецца па 1 р. 20 к. за тону.

2. Першапачатковыя зборшчыкі мэталё-лому могуць здаваць яго на базы зборных пунктаў цэнтр. арганізацый.

3. Прапанаваць акр. інсп. гандлю, пасьля узгадненьня з зацікаўленымі арганізацыямі, устанавіць для асобных раёнаў такія дыфэрэнцыраваныя прыёмачныя цэны на лом чорных мэталяў на мясцох франка-склады загатоўшчыкаў на чыгуначн. станцыях ці прыстанях машына-суднаходных рэк, якія, улічваючы (па мясцовых адлегласьцях і ўмовах) розны кошт гужавых і інш. падвозак, забясьпечылі-б:

а) для першапачатковых здатчыкаў лому чорных мэталяў выплату цэн, паказаных у п. 2-м;

б) сярэдня-вагавыя загатоўчыя цэны для А/Т-ва Рудмэталгандаль, установлевыя ў п. 2-м;

в) нізавой загат. сетцы, якая займаецца непасрэдна зборкай лому, нацэнку ў разьмеры ня ніжэй 10% ад цэн, паказаных у п. 1-м;

г) рэспубліканскім і акруговым каперацыйным аб'яднаньням камісійную ўзнагароду ў разьмеры 2-х працантаў па заключаных з Рудмэтальгандлем умовах.

4. Установленыя гэтай пастановай цэны ўводзяцца ў жыцьцё з моманту яе апублікаваньня.

5. Прапанаваць Рудмэтальгандлю зрабіць належныя захады да шырокага апавяшчэньня ўсяго сялянскага насельніцтва аб устаноўленых акр. інспэктурай гандлю дыфэрэнцыраваных загатоўчых і здатачных цэнах на лом праз друк, вывешваньне ва ўсіх зборачных пунктах і інш.

6. Прапанаваць акр. інсп. гандлю наглядаць за правільным выкананьнем гэтае пастановы наогул і за апавяшчэньнем насельніцтва, паводле п. 5, у паасобку.

7. Парушэньне гэтае пастановы цягне за сабой адказнасьць паводле арт. 202 К. К.

Нам. Народнага Камісарыяту Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Н. К. Гандлю БССР *Г. Паплаўскі.*

5 жніўня 1929 г.
№ 37.

---

Узгоднены з Камітэтам па Будаўніцтву пры Экан. Нарадзе БССР і Цэнтр. Праўленьнем Саюзу Будаўнікоў.

## 18. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра арганізацыю сталых кадраў рабочай сілы ў будаўніцтве.

*Усім акруговым інспэкцыям працы.*

Народны Камісарыят Працы БССР прапануе прыняць да выкананьня пастанову Наркампрацы СССР за 16/VII-1929 г. № 225 „Об организации постоянных кадров рабочей силы в сезонных отраслях народного хозяйства“ (Бюл. „Трудовой Посредник“ № 30/222 за 20/VII-1929 г.).

На падставе вопыту прымацаваньня будаўнічых рабочых у мінулыя гады, Нар. Кам. Працы БССР, для ажыцьцяўленьня памяненае вышэй пастановы, устанаўляе наступны парадак прымацаваньня будаўнічымі арганізацыямі будаўнічых рабочых у сэзоне 1929 г. для працы ў сэзоне 1930 году:

1. Дзяржаўныя, грамадзкія і каперацыйныя арганізацыі, якія праводзіць будаўнічыя работы, альбо работы па вырабу будаўнічых матарыялаў, павінны для работ у будаўнічым сэзоне 1930 году замацаваць за сабой ня менш 50 проц. сярэдняй сэзоннай колькасьці працуючых у іх у сэзоне 1929 г. кваліфікаваных і паўкваліфікаваных будаўнічых рабочых.

2. Замацоўваць можна толькі кваліфікаваных і паўкваліфікаваных будаўнічых рабочых і ні ў якім разе не дапушчаецца замацаваньне некваліфікаваных падручных рабочых, чорнарабочых і г. д.

3. У мэтах стымуляваньня прытоку будаўнічых рабочых з найбольш блізкіх і звычайна імкнучыхся да данага пункту раёнаў адыходу, належыць пры замацаваньні грунтавацца на сталасьці адыходу рабочых на працягу пэўнага часу, ухіляючыся ад прымацаваньня рабочых з далёкіх, не імкнучыхся да раёну будаўніцтва раёнаў, якія выпадкова пападаюць на будаўніцтва.

4. Прымацоўваць можна толькі тыя групы рабочых, якія сапраўды працуюць у даным гаспадарчым органе. Прымацаваньне дазваляецца толькі ў парадку падбору рабочых, якія працуюць на будаўніцтве

Зусім недазваляецца завочнае прымацаваньне рабочых альбо груп рабочых з іншых груп, або з ліку тых, якія ўжо раз'ехаліся па дамох.

5. Прымацаваньне будаўнічых рабочых павінна быць скончана не пазьней 15 лістапада, пры чым сьпісы прымацаваных рабочых падаюцца гаспадарчымі органамі біржам працы па месцы знахаджэньня гаспадарчага органу, неадкладна пасьля іх афармленьня і не пазьней 1-га сьнежня.

6. Выклік прымацаваных рабочых з вясковых мясцовасьцяй робіцца біржай працы па месцы правядзеньня работ, пры чым:

а) будаўнічыя арганізацыі сваечасова да пачатку работы паведамляюць біржы працы, на які пэўны тэрмін належыць выклікаць тую ці іншую прымацаваную групу, паведамляюць аб месцы работы, аб умовах работы, зарплаце, умовах жыцьця і г. д.;

б) біржы працы пасьля атрыманьня ад будаўнічых арганізацый заявак, паведамляюць непасрэдна прымацаваную групу аб тым, каб яна прыехала на працу, з паказаньнем пэўнага тэрміну прыезду. Пры гэтым біржа працы павінна ўзяць пад ўвагу тое, каб прымацаваныя мелі пасьля атрыманьня паведамленьня 3-хдзенны тэрмін для збору ў дарогу.

*Увага.* У асобных выпадках біржы працы даецца права даць дазвол гаспадарчым органам выклікаць прымацаваных непасрэдна.

7. У час прымацаваньня для растлумачэньня значэньня гэтага мерапрыемства ўтвараецца прафсаюзам адпаведная кампанія шляхам пастаноўкі гэтага пытаньня на агульных сходах, праз арганізацыю гутарак сярод рабочых і г. д. Для гэтага павінна быць адпаведная дагаворанасьць паміж інспэкцыяй і прафсаюзам.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньню рынку працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

1 жніўня 1929 г.
№ 53.

---

## 19. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак вылічэньня заработнай платы за няпоўны рабочы месяц у выпадках нявыхаду на работу рабочых і служачых з прычыны хваробы.

На падставе пастановы СНК БССР за 17 ліпеня 1929 году (прат. № 10, п. 447) Народны Камісарыят Прац БССР растлумачвае:

Пры нявыхадзе рабочых і служачых, якія аплачваюцца памесячна, на работу з прычыны хваробы, разьлік заработнай платы за прапрацаваную часьць месяца робіцца так: месячны аклад работніка дзеліцца на лік каляндарных рабочых дзён у гэтым месяцы і множыцца на фактычную колькасьць прапрацаваных ім дзён.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Тарыфны Інспэктар НКП БССР *Л. Эпштэйн.*

Узгодзена з ЦСПСБ: Нам. Загадчыка Тарыфна-Эканамічн. Аддзелу ЦСПСБ *З. Каган.*

16 жніўня 1929 г.
№ 54.

---

## 20. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра дапаўненьне пастановы свае за 15 мая 1929 г. № 33 „Пра мерапрыемствы для разьмеркаваньня на работу ў дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных прадпрыемствах і ўстановах асоб, што звольнены з Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага флёту.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе дапоўніць арт. 1 пастановы свае за 15 мая 1929 г. № 33 „Пра мерапрыемствы для разьмеркаваньня на работу ў дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных прадпрыемствах асоб, што звольнены з Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага флёту (Бюл. СНК 1929 г., № 6) абзацам наступнага зьместу.

„Парадак пасылкі на работу беспрацоўных асоб начальніцкага складу вызначаецца пастановамі СНК СССР за 14 верасьня 1926 г. „Пра парадак дачы пасад у дзяржаўных установах і прадпрыемствах асобам начальніцкага складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, звольненых у запас, доўгатэрміновы водпуск і зусім ад службы“ (З. З. СССР 1926 г. № 63, арт. 475) і СНК БССР за 17 ліпеня 1929 г. „Пра захады для ліквідацыі беспрацоўя сярод асоб начальніцкага складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі (З. З. БССР 1929 г. № 27, паст. 158).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Старшы Інспэктар па рэгуляваньню рынку
працы пры НКП БССР *Л. Лашкевіч.*

21 жніўня 1929 г.
№ 55.

---

## 21. Палажэньне пра мясцовыя органы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зацьвердзіць наступнае палажэньне пра мясцовыя органы НКП БССР:

1. Мясцовымі органамі НКП БССР зьяўляюцца: а) акруговыя інспэкцыі працы; б) акруговыя страхкасы; в) раённыя упаўнаважаныя па працы і сацыяльным страхаваньні.

### А. Акруговыя інспэкцыі працы.

I.

2. Да кампэтэнцыі акруговых інспэкцый працы належыць правядзеньне на тэрыторыі акруг усіх палажэньняў і норм па рэгуляваньні працы.

3. У склад акруговай інспэкцыі працы уваходзяць: а) інспэктары працы, б) акруговыя біржы працы, в) акруговыя кіраўніцтвы працкалянктываў.

*1. Інспэктары працы.*

4. На чале акруговай інспэкцыі працы стаіць акруговы інспэктар працы, які выбіраецца акруговым выканаўчым камітэтам з ліку інспэктароў працы, абраных паводле арт. 147 Кодэксу законаў аб Працы. Акруговыя інспэкцыі працы вядуць сваю работу пад кіраўніцтвам АВК і па дырэктывах НКП.

5. На акруговую інспэкцыю працы у галіне тарыфна-канфліктнай работы ўскладаецца:

а) правядзеньне мерапрыемстваў, зьвязаных з нармаваньнем і рэгуляваньнем заработнай платы ў прадпрыемствах і ўстановах мясцовага значэньня;

б) удзел у складаньні бюджэтаў акругі ў частцы заработнай платы і норм аховы працы;

в) рэгуляваньне і вырашэньне пытаньняў аб заработнай плаце ў мясцовай прамысловасьці:

г) кантроль за своечасовай і правільнай выплатай заработнай платы, за выкананьнем дырэктыў Ураду ў галіне заработнай платы;

д) ва ўстаноўленых законам выпадках вырашэньне працоўных канфліктаў у міравым і пасрэдніцкім парадку і разгляд скарг на пастановы РКК, міравых камісіяў, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў;

е) рэгістрацыя ва ўстаноўленых законам выпадках каляктыўных дагавораў і тарыфных згод;

6. На акруговыя інспэкцыі працы ў галіне аховы працы ўскладаюцца:

а) ажыцьцяўленьне нагляду за становішчам тэхнікі бясьпекі і прамысловай санітарыі на прадпрыемствах;

б) заключэньне з прадпрыемствамі мясцовага значэньня і з рэспубліканскімі прадпрыемствамі, па даручэньні НКП, дагавароў на санітарна-тэхнічныя мерапрыемствы і нагляд за выкананьнем прадпрыемствамі, падпарадкаванымі ВСНГ, заключаных імі дагавароў з НКП БССР на мерапрыемствы па ахове працы;

в) абсьледваньне стану катлоў;

г) падлік і вывучэньне няшчасных выпадкаў;

д) накладаньне ў адміністрацыйным парадку штрафу за парушэньне законадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні;

е) нагляд за дзейнасьцю раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў у галіне правядзеньня працоўнага заканадаўства на вёсцы;

ж) кампэтэнцыя і парадак дзейнасьці інспэктароў працы вызначаецца паводле „Наказаў“ інспэкцыі працы праўнай, тэхнічнай і санітарнай, зацьверджаных НКП СССР 24/XII—1925 г. і 1/XII—1925 г. (дадатак да „Изв. НКТ“ 1926 г. № 2).

7. На акруговыя інспэкцыі працы ў галіне дапамогі будаўніцтву рабочых жылішч ускладаецца нагляд на правільным паступленьнем, хаваньнем і скарыстаньнем фонду рабочага жылішчнага будаўніцтва прадпрыемстваў і арганізацый мясцовага значэньня.

## *II. Біржы працы.*

8. Біржы працы арганізуюцца акруговымі інспэкцыямі працы ў мэтах садзейнічаньня беспрацоўным у атрыманьні работы і забесьпячэньні народнае гаспадаркі рабочай сілы і ажыцьцяўляюць працоўнае пасрэдніцтва паводле існуючых па гэтым пытаньні законапалажэньняў.

9. Працоўныя і наймальнікі карыстаюцца пасрэдніцкімі паслугамі біржы працы дабравольна, апроч тых выпадкаў, калі існуючымі палажэньнямі альбо ўмовамі прадугледжана абавязковае прыйманьне на работу праз біржы працы. Прыйманьне на работу падлеткаў у парадку броні, звыш броні і ў школы прафэсійнага тыпу робіцца выключна праз біржы працы.

10. Пасрэдніцкія паслугі робяцца біржай працы бясплатна. Аплата наймальнікам пасрэдніцкіх паслуг дазваляецца толькі ў выпадках, праду-

гледжаных чынным законадаўствам, прычым разьмеры аплаты ўстанаўляюцца згодай паміж біржай працы і зацікаўленым гаспадарчым органам.

11. У складзе бірж працы ў залежнасьці ад ліку і прафэсійнага складу беспрацоўных, таксама ўмоў мясцовае гаспадаркі, могуць арганізоўвацца адпаведныя сэкцыі.

12. У тых мясцовасьцях, дзе няма бірж працы, альбо адпаведных ім органаў, рабочая сіла наймаецца адміністрацыяй паводле чынных заканапалажэньняў і калектыўных дагавароў. Прафсаюзныя арганізацыі рэгулююць гэты наём у рамках, вызначаных адпаведнымі калектыўнымі і працоўнымі дагаворамі.

13. Для рэгуляваньня рынку працы ў раёнах могуць быць арганізаваны пасрэдніцкія пункты з правамі філіалаў акр. бірж. працы; для рэгуляваньня адыходу сялян на промыслы могуць арганізоўвацца пасрэдніцкія альбо карэспандэнцкія пункты.

14. Непасрэднае кіраваньне біржамі працы ўскладаецца на загадчыка, які назначаецца акруговай інспэкцыяй працы па паданьні акруговага бюро прафсаюзаў.

15. Кіраваньне сэкцыямі ўскладаецца на загадчыкаў, якія назначаюцца загадчыкам біржы працы па паданьні акр. бюро профсаюзаў альбо адпаведнага прафсаюзу.

16. На чале біржы працы стаіць камітэт. У склад камітэту уваходзяць: загадчык біржы працы (старшыня), прадстаўнік акруговай страхавой касы і прадстаўнікі прафсаюзаў і гаспадарчых органаў па парытэту і адзін альбо два прадстаўнікі ад беспрацоўных.

Лік членаў камітэту ўстанаўляецца НК Працы БССР.

Прадстаўнікі гаспадарчых органаў назначаюцца адпаведнымі гарадзкімі саветамі, а ад прафсаюзаў—акр. бюро прафсаюзаў (у Менску—ЦСПСБ). Прадстаўнікі ад беспрацоўных абіраюцца і зацьвярджаюцца ў парадку, які прадугледжаны пастановай НКП СССР за 23 мая 1929 г. № 169 „Аб удзеле беспрацоўных у рабоце бірж працы" („Изв. НКТ" 1929 г. № 24).

17. У функцыі камітэту бірж працы ўваходзяць: а) разгляд пытаньняў, зьвязаных з арганізацыяй і дзейнасьцю бірж працы; б) разгляд прынцыповых пытаньняў, зьвязаных з забесьпячэньнем народнае гаспадаркі рабочай сілай і змаганьнем з беспрацоўем; в) устанаўленьне ўнутранага парадку на біржах працы; б) устанаўленьне парадку выяўленьня і праверкі кваліфікацыі, парадку рэгістрацыі беспрацоўных, прыманьня і выкананьня попыту на рабочую сілу; д) арганізацыя абмену лішкамі рабочай сілы; е) зацьверджаньне дагавораў на вярбоўку рабочае сілы, якія заключаюцца загадчыкамі бірж працы; ж) арганізацыя культурна-асьветнае работы сярод беспрацоўных; з) распрацоўка пытаньняў і кантроль у галіне ажыцьцяўленьня розных мерапрыемстваў па змаганьні з беспрацоўем (арганізацыя працоўных і вытворчых калектываў, сталовых для беспрацоўных, удзел у арганізацыі грамадзкіх работ), распараджэньне сродкамі, якія адпушчаюцца для гэтай мэты; і) разгляд і зацьверджаньне справаздач пра дзейнасьць падпарадкаваных органаў.

18. Усе пастановы камітэтаў бірж працы, апроч тых, якія маюць выключна ўнутрыведамственны характар, выдаюцца ў адпаведным парадку за подпісамі акруговага інспэктара працы і старшыні камітэту біржы працы.

19. Нагляд за дзейнасьцю камітэтаў бірж працы ажыцьцяўляецца акруговым інспэктарам працы, які мае права прыпыняць незаконныя

пастановы камітэту біржы працы, паведамляючы аб гэтым на працягу 3 дзён НК Працы БССР.

20. У функцыі біржы працы уваходзіць: а) рэгістрацыя асоб, якія маюць права рэгістравацца паводле чынных заканапалажэньняў; б) прыманьне і праверка попыту на працу; в) падбор беспрацоўных паводле заяўленага попыту; г) вярбоўка і перароска рабочае сілы.

### *III. Акруговыя кіраўніцтвы працоўнымі калектывамі.*

21. Для арганізацыі працоўнае дапамогі беспрацоўным, зарэгістраваным у пасрэдніцкіх органах НК Працы БССР, акруговым інспэкцыям працы даецца права арганізоўваць з дазволу НК Працы БССР і па згодзе з адпаведнымі, прафэсійнымі саюзамі вытворчыя і гандлёвыя прадпрыемствы і працоўныя арцелі з ліку беспрацоўных з назвай „працоўныя калектывы“.

22. Усе працоўныя калектывы аднэй акругі яднаюцца ў акруговае кіраўніцтва працоўных калектываў, якое дзейнічае паводле статуту, зацьверджанага НК Працы БССР і мае права юрыдычнае асобы.

23. Народны Камісарыят Працы БССР мае права надаць правы юрыдычнае асобы паасобным вялікім працоўным калектывам. Такія працоўныя калектывы дзейнічаюць на падставе статутаў, зацьверджаных НК Працы БССР, і беспасрэдна падпарадкоўваюцца адпаведнай акруговай інспэкцыі працы.

24. На чале кіраўніцтва стаіць начальнік, які назначаецца НК Працы БССР па паданьні акруговых інспэктароў працы, узгодненаму з акруговым бюро прафсаюзаў.

25. Акруговыя кіраўніцтвы працоўных калектываў і паасобныя працоўныя калектывы з правамі юрыдычнае асобы маюць на таргох па дзяржаўных падрадах і пастаўках аднолькавыя правы з дзяржаўнымі арганізацыямі і карыстаюцца льготамі па падатках і сацыяльным страхаваньні паводле спэцыяльных законаў СССР і БССР.

Непасрэднае кіраваньне паасобнымі працоўнымі калектывамі, падпарадкаванымі акруговаму кіраўніцтву, ускладаецца на загадчыкаў, якія дзейнічаюць на падставе даверанасьцяй, якія выдаюцца ім акруговым кіраўніцтвам.

26. Акруговыя кіраўніцтвы працкалектывамі прымаюць непасрэдны ўдзел у арганізацыі працкалектываў, кіруюць іх працай, складаюць гаспадарчыя і фінансавыя пляны для існуючых у акрузе працкалектываў, для іх пашырэньня і для арганізацыі новых працкалектываў.

27. Акруговыя кіраўніцтвы разьмяркоўваюць сродкі па ўноў арганізаваных і падлягаючых пашырэньню працкалектывах, падлічаюць іх і ўстанаўляюць разьмер крэдытаваньня для кожнага працкалектыву ў адпаведнасьці з яго вытворчым плянам.

28. Камплектаваньне працкалектываў рабсілай праводзіцца выключна праз біржы працы; прыём рабсілы не праз біржы працы забараняецца. Парадак зьмены складу працкалектываў устанаўляецца камітэтам біржы працы па згодзе з акр. кіраўніцтвам працкалектываў і акрпрафбюро у адпаведнасьці з агульнымі дырэктывамі НКП СССР і НКП БССР.

29. Акруговыя кіраўніцтвы зацьвярджаюць вытворчыя праграмы, прыбыткова-выдатковыя каштарысы, балянсы, справаздачнасьць працкалектываў, рэвізуюць іх, заслухоўваюць справаздачы аб іх дзейнасьці.

30. Акруговыя кіраўніцтвы сумесна з акруговымі інспэкцыямі працы і акруговымі бюро прафсаюзаў вырашаюць пытаньні аб перадачы

працкаляктываў гаспадарчым органам альбо капярацыі і падаюць свае рашэньні на зацьверджаньне НК Працы БССР.

31. Пытаньні аб ліквідацыі працкаляктываў вырашаюцца ў адпаведнасьці з арт. 30.

32. Усе прынцыповыя пытаньні працы каляктываў узгадняюцца з акр. інсп. працы і зносіны з НКП па ўсіх прынцыповых пытаньнях вядуцца праз акруговыя інспэкцыі працы.

33. Сродкі акруговых кіраўніцтваў працкаляктываў складаюцца:

а) з асыгнаваньняў па дзяржаўным і мясцовым бюджэтах;

б) з асыгнаваньняў органаў сац. страхаваньня на працоўную дапамогу беспрацоўным і капіталізаваных дапамог, што выдаюцца страхкасамі;

в) з чыстага прыбытку ў разьмеры ня звыш 50%, атрыманага ад эксплёатацыі прадпрыемстваў;

г) іншых прыбыткаў.

*Увага* 1. Прыбытак, атрыманы паводле гэтага арт., знаходзіцца ў распараджэньні акруговага кіраўніцтва і выдаткоўваецца выключна на пашырэньне працоўнае дапамогі беспрацоўным.

*Увага* 2. Прыбытак працкаляктываў, якія маюць правы юрыдычных асоб (арт. 25), не паступае ў распараджэньне акруговага кіраўніцтва; часьць гэтага прыбытку, у разьмеры ня звыш 25%, можа быць узята НК Працы БССР, астатнія 75% знаходзяцца ў распараджэньні адпаведнага працкаляктыву для пашырэньня асноўнага і зваротнага капіталу.

34. Акруговыя кіраўніцтвы адказваюць выключна маемасьцю, якая ім належыць; працуючыя ў працкаляктывах, таксама НК Працы БССР і акр. інсп. працы ня нясуць ніякай маемаснай адказнасьці па абавязацельствах працкаляктываў.

Працкаляктывы, якія маюць правы юрыдычных асоб, адказваюць толькі сваёй маемасьцю, акруговыя кіраўніцтвы працкаляктываў нясуць за іх адказнасьць.

35. Акруговыя кіраўніцтвы маюць сваю бухгальтэрыю і складаюць зборныя справаздачы і балянсы па формах і ў тэрміны, якія ўстанаўляюцца НК Працы БССР.

36. Акруговыя кіраўніцтвы рэвізуюцца Н. К. Працы БССР і акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

### Б. Акруговыя страхавыя касы.

37. Акруговыя страхкасы арганізуюцца паводле пастановы Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР, узгодненай з Цэнтральным Саветам Прафэсійных Саюзаў БССР, у адпаведнасьці з пастановамі НКП СССР і Цэнтральным Кіраўніцтвам Сацыяльнага Страхаваньня.

38. Органам кіраваньня акруговых страхавых кас зьяўляецца камітэт страхавой касы, які абіраецца на акруговым зьезьдзе прафсаюзаў.

39. Камітэты страхкас абіраюцца на тыя-ж тэрміны, што і акруговыя бюро прафсаюзаў. Лік членаў камітэту вызначаецца наступны: у акругах з колькасьцю застрахаваных да 10.000—9; звыш 10.000—ня больш 15.

40. Камітэт страхавой касы абірае з ліку членаў старшыню і сакратара касы.

41. У акругах з колькасьцю застрахаваных звыш 20.000 камітэт акруговай страхкасы абірае прэзыдыум з 5 членаў. Прэзыдыум раз-

глядае паступаючыя ў касы заявы, падрыхтоўвае пытаньні да пасяджэньня камітэту.

42. Пасяджэньні камітэту страхавой касы склікаюцца ня менш двох разоў у месяц; пасяджэньні прэзыдыуму — ня менш аднаго разу на тыдзень.

43. Пратакол кожнага пасяджэньня камітэту страхавой касы падпісваецца старшынёй касы і сакратаром.

44. Члены камітэту, якія ня згодны з пастановаю камітэту, могуць занасіць у пратакол сваю асобную думку.

45. На акруговыя страхкасы ўскладаецца:

а) прыцягненьне да сацыяльнага страхаваньня прадпрыемстваў, установ і гаспадарак акругі;

б) тарыфікацыя прадпрыемстваў, установ і гаспадарак;

в) спагнаньне страхавых уносаў, пені і штрафаў, якія накладаюцца акруговымі інспэктарамі працы за парушэньне чыннага законадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні;

г) ужываньне прымусовага спагнаньня страхавых уносаў;

д) узбуджэньне пытаньняў аб накладаньні на страхавальнікаў адміністрацыйных пакараньняў і прыцягненьні іх да крымінальнай адказнасьці за парушэньне правіл па сацыяльным страхаваньні;

е) прызначэньне і выплата пэнсій і ўсіх дапамог па сацыяльным страхаваньні;

ж) удзел у складаньні каштарысаў мясцовага лекавага фонду і ў арганізацыі мэдыцынскай дапамогі застрахаваным, кантроль за выдаткаваньнем фонду мэдычнай дапамогі застрахаваным, кантроль за выдаткаваньнем фонду мэдыцынскае дапамогі і за працай лекавых установ, абслугоўваючых застрахаваных;

з) кантроль за дачай і скарыстаньнем водпускаў па часовай непрацаздольнасьці;

і) удзел у рабоце органаў доктарскай экспэртызы і нагляд за работай гэтых органаў;

к) арганізацыя з дазволу Галоўсацстраху дамоў адпачынку, санаторый і інвалідных дамоў і кіраваньне імі;

л) удзел у працы камітэту бірж працы;

м) кіраваньне работай раённых упаўнаважаных па сацыяльным страхаваньні.

46. Сродкі акруговых страхкас утвараюцца і выдаткоўваюцца ў адпаведнасьці з „Часовым палажэньнем пра фонды сацыяльнага страхаваньня“, зацьверджаным СНК СССР за 23 сакавіка 1926 г. (З. З. СССР, 1926 г. № 19, арт. 124, 1927 г.—№ 20, арт. 229, № 59, арт. 591 і № 64, арт. 649).

47. Грашовыя дакумэнты ад імя страхавых кас падпісваюцца старшынёй касы альбо членам камітэту па даручэньні камітэту і бухгальтарам.

48. Галоўныя пытаньні працы страхкас узгадняюцца з акр. бюро прафсаюзаў і акр. інспэктарам працы. У сваёй дзейнасьці страхкасы кіруюцца чынным законадаўствам, пастановамі і загадамі НКП СССР, Саюзнага і Рэспубліканскага саветаў сацыяльнага страхаваньня і Галоўсацстраху і дырэктывамі акр. бюро прафсаюзаў, якія не пярэчаць законадаўству, пастановам і загадам НКП СССР, НКП БССР, Саюзнага і Рэспубліканскага саветаў сацыяльнага страхаваньня і Галоўсацстраху.

49. Кіраваньне і нагляд за дзейнасьцю акрстрахкас з боку акр. інсп. працы, таксама пытаньне аб іх узаемаадносінах вызначаюцца паводле інструкцыі НКП БССР за 6 кастрычніка 1927 году № 80 (Бюл. СНК 1927 г. № 16).

50. Скаргі на дзейнасьць камітэтаў акруговых страхавых кас як застрахаванымі, так і страхавальнікамі падаюцца ў Галоўсацстрах.

51. Дзейнасьць акруговых страхавых кас рэвізуецца спэцыяльнымі рэвізійнымі камісіямі, а таксама падлягае рэвізіі і кантролю Галоўсацстраху, органаў РСІ і фінансавога кантролю.

52. Парадак рэвізіі страхкас органамі фінкантролю вызначаецца інструкцыяй НКП і НК Фінансаў СССР за 15 верасьня 1927 году № 275 („Изв. НКТ“ 1927 г. № 43).

53. Рэвізійная камісія абіраецца адпаведным зьездам прафсаюзаў адначасна з камітэтам акрстрахкасы у ліку 3—5 членаў на той-жа тэрмін, што і камітэт акрстрахкасы.

*Ўвага.* Паводле пастаноў прэзыдыуму акр. бюро прафсаюзаў увесь склад рэвізійнай камісіі альбо паасобныя яе члены могуць пераабірацца да сканчэньня іх паўнамоцтваў на пленумах акр. бюро прафсаюзаў.

54. Рэвізійная камісія абірае з свайго складу старшыню і сакратара. Рэвізійная камісія карыстаецца апаратам акруговых страхкас.

55. Асноўнай задачай рэвізійнай камісіі зьяўляецца кантроль і нагляд за фінансавай, апэрацыйнай, гаспадарчай і арганізацыйнай дзейнасьцю страхкасы.

Рэвізійныя камісіі ня маюць права ўмешвацца ў аперацыйную работу страхкас.

56. У функцыі рэвізійнай камісіі ўваходзіць:

а) праверка наяўнасьці грошай і іншае маемасьці касы і адпаведнасьці іх запісам у кнігах;

б) праверка рахункаў, кніг і іншых дакумэнтаў, таксама запісаў па іх у кнігах;

в) праверка фінансавага і гаспадарчага становішча ўстаноў, падпарадкаваных касе (інвалідных дамоў і г. д.);

г) праверка правільнасьці і своечаснасьці дачы застрахаваным належачых ім дапамог;

д) праверка правільнасьці скарыстаньня страхавых сродкаў;

е) праверка правільнасьці і своечаснасьці ажыцьцяўленьня касай законадаўства аб сацыяльным страхаваньні і пастаноў і загадаў Саюзнага і Рэспубліканскага Саветаў сацыяльнага страхаваньня і Галоўсацстраху;

ж) праверка пастаноўкі і вядзеньня дзелаводзтва, рахункаводзтва і справаздачнасьці кас;

з) праверка законнасьці і мэтазгоднасьці заключаных касай дагавораў;

і) дача заключэньняў па скаргах застрахаваных на дзеяньні касы;

к) праверка работы касы па спагнаньні страхавых уносаў, змаганьні з запазычанасьцю;

л) праверка работы страхавых кас па правядзеньні страхавой асьветы;

м) удзел у рэвізіі органамі фінкантролю мэтазгоднасьці выдаткаваньня лекавага фонду;

н) праверка ўдзелу касы ў рабоце па арганізацыі мэддапамогі застрахаваным, пастаноўкі работы доктарска-кантрольных камісій.

57. Рэвізійная работа рэвізійных камісій ажыцьцяўляецца шляхам пэрыядычных і раптоўных абсьледваньняў. Пэрыядычныя абсьледваньні робяцца адзін раз у 6 месяцаў.

58. Акты рэвізій падаюцца рэвізійнымі камісіямі ў камітэт страхкасы і Галоўсацстрах.

59. У сваёй працы рэвізійныя камісіі кіруюцца законадаўствам аб сацыяльным страхаваньні, пастановамі і загадамі Саюзнага і Рэспубліканскага саветаў сацыяльнага страхаваньня і Галоўсацстраху.

60. Акруговыя інспэкцыі працы і акруговыя страхкасы падаюць справаздачы аб сваёй дзейнасьці ў Н. К. Працы БССР, у акруговыя выканаўчыя камітэты і акруговыя бюро прафсаюзаў у тэрміны, устаноўленыя Н. К. Працы БССР.

61. Акруговыя інспэкцыі працы, страхкасы, акруговыя біржы працы і акруговыя кіраўніцтвы працоўных калектываў маюць штампы і пячаткі ўстаноўленай формы. Акруговыя інспэкцыі працы і акруговыя страхкасы маюць пячаткі з дзяржаўным гэрбам.

### В. Раённыя ўпаўнаважаныя па працы і сацыяльным страхаваньні.

62. Раённыя ўпаўнаважаныя па працы і сацыяльным страхаваньні назначаюцца акруговымі страхкасамі па згодзе з акр. інспэкцыяй працы і раённым бюро прафсаюзаў (упаўнаважаным акр. бюро прафсаюзаў) і вядуць сваю працу пад кіраўніцтвам раённага выканаўчага камітэту і па дырэктывах акр. інспэкцыі працы і акрстрахкас.

63. Раённыя ўпаўнаважаныя па працы і сацстрахаваньні ажыцьцяўляюць, паводле пляну і заданьняў акр. інспэкцыі працы і акрстрахкасы, на тэрыторыі раёну мерапрыемствы па працы і сац. страхаваньні, у паасобку ў галіне працы:

а) наглядаюць за правільным дапасаваньнем закону аб парадку ўжываньня Код. Зак. аб Працы ў кулацкіх гаспадарках (З. З. БССР 1929 г. № 14, арт. 117), „Часовых Правіл па ўжываньні дапаможнае наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках“ і інструкцыі да „Правіл“;

б) абсьледуюць у межах раёну ўмовы працы сельска-гаспадарчых і лясных рабочых і батракоў у сялянскіх і савецкіх гаспадарках (у апошніх—па спэцыяльных заданьнях);

в) робяць абсьледваньні прадпрыемстваў і ўстаноў паводле плянаў, якія зацьверджаны акруговымі інспэкцыямі працы;

г) наглядаюць за ажыцьцяўленьнем прадпрыемствамі, установамі і гаспадаркамі нармальнага рабочага часу;

д) наглядаюць за правільнай дачай усім рабочым і служачым штотыднёвага дню адпачынку, рэвалюцыйных сьвят, асобных дзён адпачынку, чарговых і дадатковых водпускаў, за правільнай выдачай кампэнсацый за нескарыстаны водпуск, звышмерную працу;

е) наглядаюць за правільным ужываньнем у прадпрыемствах, установах і гаспадарках працы жанчын і падлеткаў і захаваньнем правілаў аб парадку звальненьня цяжарных жанчын;

ж) наглядаюць за выдачай рабочым і служачым належачай ім спэцвопраткі;

з) наглядаюць за тым, каб установы і прадпрыемствы мелі зацьверджаныя інспэкцыяй працы правілы ўнутранага парадку;

і) наглядаюць за сваечасовым выкананьнем установамі і прадпрыемствамі прапаноў інспэктароў працы;

к) удзельнічаюць па пытаньнях зарплаты і норм аховы працы ў нарадах па складаньні бюджэту пры раённых выканаўчых камітэтах;

л) наглядаюць за правільнай і сваечасовай выплатай зарплаты;

м) удзельічаюць у ажыцьцяўленьні мерапрыемстваў па рэгуляваньні рынку працы і змаганьні з беспрацоўем.

64. У галіне сацыяльнага страхаваньня на раённых упаўнаважаных ускладаецца:

а) прыцягненьне да сацстрахаваньня прадпрыемстваў, устаноў, гаспадарак акругі і нагляд за правільнай і сваечасовай выплатай імі страхавых уносаў;

б) тарыфікацыя сялянскіх гаспадарак, наймальнікаў, хатніх работніц і наймальнікаў, што страхуюць вучняў, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 7 верасьня 1927 г. „Пра сацыяльнае страхаваньне вучняў, якія працуюць у саматужнікаў, рамесьнікаў, прам. капярацыі і прац. арцелях“ (З. З. СССР 1927 г. № 63, арт. 630 і 1928 г. № 36, арт. 328);

в) падлік у межах раёну прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак, у якіх працуюць рабочыя і служачыя, падлягаючыя сацстрахаваньню;

г) прыйманьне страхавых уносаў і перадача іх разам з адпаведнымі дакумэнтамі ў акрстрахкасу;

*Увага 1.* Перадача дакумэнтаў і справаздач аб атрыманых страхавых уносах і аб зробленых па іх выдатках робіцца паводле ўстаноўленай формы ў акр. страхкасу ня менш аднаго разу ў месяц.

*Увага 2.* Для ўсіх прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак, з якіх раённыя ўпаўнаважаныя спаганяюць страхавыя ўносы, — апошнія павінны весьці асабістыя рахункі.

д) прыйманьне заяў і адпаведных дакумэнтаў аб выдачы ўсіх дапамог па сацстрахаваньні, пэнсій па інваліднасьці і сем‘ям асоб, што страцілі кармільцаў;

*Увага.* Выплата паказаных вышэй дапамог робіцца з авансаў, што атрымліваюцца для гэтай мэты з акрстрахкасы, а таксама з сум, якія ёсьць у ўпаўнаважанага з ліку спагнаных страхавых уносаў.

е) прызначэньне дапамог па часовай непрацаздольнасьці і на карменьне дзіцяці ў бясспрэчных выпадках, прызначэньне дапамог па беспрацоўю ў бясспрэчных выпадках у раёнах з лікам застрахаваных звыш 3.000;

*Увага.* У астатніх выпадках паказаныя вышэй дапамогі прызначаюцца камітэтам акрстрахкасы.

ж) падлік застрахаваных, іх утрыманцаў і інвалідаў;

з) нагляд за пастаноўкай у раёне мэдыцынскае дапамогі застрахаваным;

і) удзел у працы доктарска-кантрольных камісій.

65. Упаўнаважаныя па працы і сацыяльным страхаваньні ня маюць права рабіць якіх-небудзь адхіленьняў ад заканадаўства аб працы (выдача дазволу на звышмерныя работы і г. д.).

66. Для ажыцьцяўленьня сваіх функцый раённыя ўпаўнаважаныя па працы і сацыяльным страхаваньні маюць права бесьперашкодна наведваць усе прадпрыемствы, установы і гаспадаркі і патрабаваць паданьня патрэбных вестак, кніг і дакумэнтаў.

Прадпрыемствы, установы і гаспадаркі, што знаходзяцца па-за месцам сталага жыцьця раённага ўпаўнаважанага па працы і сацыяльным страхаваньні павінны даць яму пры абсьледваньні адпаведнае памяшканьне для службовых заняткаў, а пры неабходнасьці таксама і для адпачынку і начлегу. Калі дзяржаўнае прадпрыемства знаходзіцца на адлегласьці больш 3 км. ад станцыі чыгункі, упаўнаважаны па працы і сацыяльным страхаваньні мае права патрабаваць дачы яму сродкаў перасоўваньня.

67. Справы аб усіх выяўленых у прадпрыемствах, установах і гаспадарках парушэньнях заканадаўства аб працы, калі адхіленьне гэтых парушэньняў патрабуе значных сродкаў, альбо калі парушэньні выклікаюць прыцягненьне да адміністрацыйнай альбо крымінальнай адказнасьці, раённыя ўпаўнаважаныя перадаюць на вырашэньне акруговых інспэкцый працы; па парушэньнях, якія не патрабуюць для іх адхіленьня значных выдаткаў, напрыклад, выдача ручнікоў, мыла, прыбі-

раньне памяшканьняў, парушэньне закону аб парадку ўжываньня Код. Зак. аб Працы ў кулацкіх гаспадарках, „Часовых Правіл“ і інструкцыі да іх, раённыя ўпаўнаважаныя даюць прапановы аб адхіленьні гэтых парушэньняў, паведамляючы адначасова аб гэтым акруговую інспэкцыю працы.

68. Раённыя ўпаўнаважаныя зьяўляюцца старшынямі міравых камісій, што арганізуюцца пры РВК для разгляду працоўных спрэчак, узьнікаючых на грунце ўжываньня наймовай працы.

69. Раённыя ўпаўнаважаныя праводзяць нагляд і інструктаваньне дзейнасьці сельскіх саветаў па ажыцьцяўленьні працоўнага заканадаўства і ў паасобку работы міравых камісій пры іх.

70. Раённыя ўпаўнаважаныя па працы і сацыяльным страхаваньні падаюць справаздачы аб сваёй дзейнасьці ў акр. інспэкцыі працы, акрстрахкасы і раённыя выканаўчыя камітэты па формах і ў тэрміны, устаноўленыя НКП БССР і Галоўным Кіраўніцтвам Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР.

71. З выданьнем гэтага Палажэньня касуюцца: а) інструкцыя НКП БССР за 27 сакавіка 1925 г. „Аб дзейнасьці акруговых існпэкцый працы“; б) палажэньне пра біржы працы, пра сэкцыі па найманьні падлеткаў пры біржах працы, зацьверджанае НКП БССР 27 красавіка 1925 г.; в) інструкцыя НКП і НК Ун. Спраў БССР за 19 лютага 1926 г. № 15 „Пра правы і абавязкі раённых ўпаўнаважаных НКП і сацыяльным страхаваньні“.

*Увага*. П. „в“ арт. 71 узгоднены з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Сакратар НК Працы БССР *Ф. Ніканораў.*

21 жніўня 1929 г.
№ 56.

---

## 22. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра асобныя фонды заработнай платы і пэрсанальныя аклады.

Абсьледваньнем НК Працы БССР выяўлен шэраг парушэньняў існуючых палажэньняў аб парадку аплаты спэцыялістых і рэгістрацыі зробленых з імі працоўных дагавораў, напрыклад: Белдзяржбуд аплачвае спэцыялісту—900 р., Кіраўніцтва трамваю—500 р., Гандльбуд—500 р., Белжылсаюз—450 р. і да т. п. без належнага дазволу органаў працы. Апроч гэтага, у зробленых працоўных дагаворах ёсьць шэраг недапушчальных парушэньняў працоўнага законадаўства (аплата паўтарамесячнага аклада, як пад‘ёмныя, выплата працоўным няўстойкі ў разьмеры 3-месячнага акладу і да т. п.). Працоўныя дагаворы сваечасова не падаюцца на рэгістрацыю ў НК Працы.

НК Працы прыцягнуты да адказнасьці ўсе ўстановы, у якіх выяўлены паказаныя парушэньні.

Каб адхіліць у будучым непаразуменьні па гэтым пытаньні НК Працы БССР яшчэ раз растлумачвае ўстаноўлены заканадаўствам парадак рэгуляваньня аплаты спэцыялістых:

I. Парадак устанаўленьня пэрсанальных акладаў паказаны ў пастанове СНК СССР за 8/IX—1298 г. („Изв. НКТ“ 1928 г. № 47/48).

II. Для атрыманьня дазволу на выплату пэрсанальных акладаў звыш 360 р. і да 500 р. патрэбен дазвол НК Працы БССР, а звыш 500 р.— дазвол НК Працы СССР з папярэднім заключэньнем НК Працы БССР.

III. Для атрыманьня дазволу на пэрсанальныя аклады звыш 360 р. установы і прадпрыемствы павінны падаваць заяўкі па наступнай форме:

| Назва прадпрыемства | Пасада | Прозьвішча, імя і імя па бацьку | Адукацыя і спэцыяльнасьць | Аклад, які атрымліваў на папярэд. рабоце | Аклад па калектыўн. дагавору (асноўны) | Пэрсанальны аклад, які патрабуецца | Ці мае работу па сумяшчэньню, дзе і аклад |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | |

з далучэньнем аўтабіяграфіі спэцыялістага.

IV. З асобамі, якія атрымоўваюць звыш 360 р., павінен рабіцца пісаны працоўны дагавор і падавацца на рэгістрацыю ў адпаведную акруговую інспэкцыю працы не пазьней аднаго тыдня пасьля яго падпісаньня, разам з копіяй дазволу.

V. Асобныя фонды для аплаты спэцыялістаў устанаўляюцца для ўстаноў, дзе не праведзена дзяржаўнае нармаваньне заработнае платы і дзе не ўстаноўлены спэцыяльныя тарыфныя сеткі, для рэспубліканскіх прадпрыемстваў і ўстаноў—НК Працы БССР, для прадпрыемстваў і ўстаноў мясцовага значэньня—акруговымі інспэкцыямі працы.

Заяўкі на спэцфонд падаюцца штогод не пазьней 1 кастрычніка па форме, паказанай у пастанове НК Працы СССР за 24 IX—1924 г. № 397/434 („Изв. НКТ" 1924 г. № 38). Спэцфонды ўстанаўляюцца на гаспадарчы год.

VI. Інспэкцыі працы павінны безадкладна правесьці масавую праверку аплаты спэцыялістых з прыцягненьнем віноўных у парушэньні існуючага законадаўства да адказнасьці.

VII. Пры ўстанаўленьні разьмераў спэцфондаў інспэкцыі працы павінны асабліва жорстка падыходзіць да выпадкаў неабгрунтаваных патрабаваньняў на павялічэньнеў акладаў, утварэньня ажыатажу і перамaньваньня спэцыялістых.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Л. Захарава.*

Старшы Тарыфны Інспэктар НК Працы БССР *Л. Эпштэйн.*

22 жніўня 1929 г.
№ 57.

---

## 23. Рэзалюцыі 2-га пашыранага Пленуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР V скліканьня.

### а) Аб становішчы і працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і далейшых мерапрыемствах па ўзмацненьню іх працы.

Заслухаўшы даклад тав. Жарына аб становішчы і працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і далейшых мерапрыемствах па ўзмацненьню іх працы, 2-гі пашыраны Пленум Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР V скліканьня пастанаўляе:

1. Выходзячы з задач, пастаўленых перад камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі XV-м Зьездам УсеКП(б), XI-м і XII-м Зьез-

дамі КП(б)Б, 3-яй Сэсіяй ЦВК БССР VIII склiканьня і V-ым Усебеларускім Зьездам Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі па правядзеньню мерапрыемстваў па сацыялістычнай рэканструкцыі бедняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, па арганізацыі батрацтва і беднаты для рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты вёскі ў цесным саюзе з серадняцтвам, па ўсямерным разгортваньні работы па садзейнічаньню калектывізацыі, вытворчаму капераваньню беднаты і маламоцнага серадняцтва, адзначыць у працы сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі наступныя дасягненьні:

а) павялічаны насенна-натуральны і грашовы фонд з 663.828 руб. у 1927-28 г. да 1.017.129 руб., з якога збожжа—608.799 пуд. і грошай 408.330 руб., павялічэньне на 56%;

б) павялічана колькасьць пракатных пунктаў на 78% (у 1927-28 г. 425, зараз—757) з колькасьцю машын і прыладаў да 4.000;

в) павялічыўся ўдзел камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў калектывізацыі вёскі. За справаздачны тэрмін арганізавана 610 вытворчых аб‘яднаньняў;

г) адбудавана і адрамантавана 64 кузьні для рамонту с/г. машын і інвэнтару;

д) павялічылася спагнаньне членскіх уносаў. Спагнана за тры гады 1925-26—1927-28 г. г. 317.455 руб.—20%, за гэты год 425 тыс. руб. або 40%;

е) павялічаны лік прадпрыемстваў падсобных сельскай гаспадаркі: млыноў, цагельняў, чарапічных заводаў;

ж) павялічылася дапамога беднаце: у 1926—27 годзе было выдана зваротных і беззваротных дапамог на 338.972 руб., а за апошнія паўтары гады 769.306 рублёў. Каперавана за гэты час бедняцкіх гаспадарак 15.336.

2. Побач з дасягненьнямі ў працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі Пленум адзначае наступныя недахопы:

а) сялянскія таварыствы ўзаемадапамогі недастаткова перабудавалі сваю працу ў напрамку дапамогі беднаце, поўнага садзейнічаньня і ўдзелу ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на аснове калектывізацыі вёскі, большага пашырэньня вытворча-калектыўнай дапамогі беднаце, не разгарнулі працы па дапамозе беднаце ўжо арганізаванай у калгасы і тэй, што арганізоўваецца;

б) камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі яшчэ не сталі на шлях масавага разгортваньня працы па ўнядрэньню агратэхнічных мерапрыемстваў сярод сялянства, асабліва беднаты, для падвышэньня ўраджайнасьці і таварнасьці ў сельскай гаспадарцы;

в) маецца некаторая засьмечанасьць сельскіх камітэтаў кулацкім і чуждым антысавецкім элемэнтам, яшчэ недастатковы ўдзел у працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі беднаты і батрацтва, непрацаздольнасьць значнай часткі сельскіх камітэтаў, акрупаўнаважаных, старшынь райкамітэтаў, надта частая зьмена апошніх—5-6 разоў у год, адсутнасьць належнага інструктаваньня і практычнай дапамогі з боку большай часткі акрупаўнаважаных, раённых камітэтаў і савецкіх органаў, у сувязі з чым маюцца выпадкі скрыўленьня клясавай лініі ў практычнай працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі;

г) недастаткова разгорнуты грамадзкія формы працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі, слаба наладжана справаздачнасьць аб іх працы перад членамі таварыстваў, не разгорнута самакрытыка з боку беднаты і серадняцтва, накіраваная на зьнішчэньне маючыхся недахопаў, нездавальняюча праца рэв. камісій; амаль поўная адсутнасьць работы з актывам пры правядзеньні масава-палітычных і гаспадарчых кампа-

ній, слаба ўцягваецца членская маса для практычнага ўдзелу ў правядзеньні гэтых кампаній (пасеўкампанія, перавыбары сельсаветаў, капэрацыйных органаў, хлебазагатоўкі, распаўсюджваньне пазык, кантрактацыя і інш.);

д) прадпрыемствы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі ў большасьці працуюць бесплянава, маюцца выпадкі бесгаспадарчасьці, растрат, адсутнасьць дасканалага кантролю і практычнага абгаварэньня намячаемых мерапрыемстваў, ня ўцягваецца членская маса ў гэту справу, асабліва бедната і серадняцтва;

е) зям. вучасткі камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі ўсе яшчэ ня апрацоўваюцца цалкам шляхам грамадзкай апрацоўкі, ёсьць выпадкі здачы ў арэнду і кепская апрацоўка іх, недастатковая агратэхнічная дапамога з боку аграномa;

ж) няўважлівыя адносіны некаторых акр. выкан. камітэтаў да падбору акрупаўнаважаных сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі (да гэтага часу няма акрупаўнаважаных у Менскай і Мазырскай акругах).

У далейшай працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі Пленум прапануе правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі накіраваць усю сваю дзейнасьць на каляктыўна-вытворчую дапамогу беднаце і незаможнаму серадняцтву, садзейнічаючы ўсёй сыстэмай гаспадарчых і арганізацыйных мерапрыемстваў каляктывізацыі вёскі. Разам з гэтым праводзіць штодзённую шырокую растлумачальную працу сярод членаў таварыстваў аб задачах і карысьці каляктывізацыі і вытворчага каператаваньня.

2. Для выкананьня дырэктыў партыі і ўраду камітэтам сялянскае ўзаемадапамогі прыстасаваць сваю працу так, каб яна цалкам спрыяла выкананьню закона аб падвышэньні ўраджайнасьці і таварнасьці бедняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, уцягнуўшы ў гэту працу ўсю бедняцка-серадняцкую масу праз узмацненьне справы сацыялістычнага спаборніцтва камітэтаў паміж сабой, таксама і праз уцягненьне ў гэту справу ўсёй членскай масы.

3. Прапанаваць раённым і сельскім камітэтам цяпер-жа налічыць членскія ўносы на 1929-30 год, спагнаць іх і нядоімку членскіх уносаў за мінулыя гады не пазьней 1-га сьнежня 1929 году. Даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі прыняць самыя рашучыя меры да працаўнікоў, якія нядбайна адносяцца да гэтай справы.

4. Прапанаваць раённым і сельскім камітэтам узмоцніць працу вытворчых прадпрыемстваў, палепшыць іх эканамічнае становішча шляхам плянавага рамонту старых і адбудаваньня новых, увядзеньня плянавасьці ў вытворчыя праграмы, праводзячы рашучую барацьбу з растратамі, бесгаспадарчасьцю, злачынствамі. Даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі дабіцца павялічэньня крэдытаваньня прамысловасьці і паставіць пытаньне перад належнымі органамі аб перадачы ва ўласнае карыстаньне прадпрыемстваў, што арандуюцца камітэтамі.

5. Прапанаваць раённым і сельскім камітэтам папоўніць пракатныя пункты і кузьні-майстэрні больш складанымі машынамі і інвэнтаром, пашырыўшы сетку іх, канчаткова зьнішчыць маючуюся бесгаспадарчасьць і няўважлівыя адносіны да захаваньня машын.

6. Усіліць арганізацыю злучных пунктаў пры камітэтах сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, пашырыўшы іх сетку, разам з гэтым укамплектоўваючы іх жывёлай палепшанай якасьці.

7. Пленум прапануе раённым і сельскім камітэтам паставіць сваёй канкрэтнай задачай, каб зям. вучасткі апрацоўваліся выключна грамадзкім парадкам праз працдружыны, талокі, нядзельнікі, супрагі і былі аднэй з крыніц папаўненьня фондаў, праводзячы культурную апрацоўку іх, зьнішчыўшы выпадкі здачы іх у арэнду, дабіўшыся ў гэтай працы дапамогі з боку раённага агранома.

8. Пленум катэгарычна прапануе ва ўсёй сыстэме працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі ўстанавіць чоткае правядзеньне клясавай лініі, узяўшы за правіла, каб усе мерапрыемствы па працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі папярэдня абгаварваліся на групах і сходах беднаты, рашуча праводзячы барацьбу з тымі, хто парушае клясавую лінію.

9. Наступныя перавыбары камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі павінны прайсьці пад знакам поўнага замацаваньня кіруючай ролі ў камітэтах сялянскае ўзаемадапамогі за беднатой, батрацтвам і серадняцкім актывам, для чаго камітэтам сялянскае ўзаемадапамогі зараз-жа разгарнуць працу па выяўленьню кандыдатаў з беднаты, батрацтва і серадняцкага актыву для вылучэньня іх на працу ў камітэтах. Пры правядзеньні перавыбараў забясьпечыць стопроцантную яўку членаў таварystваў на справаздачна-перавыбарныя сходы, асабліва жанчын, паставіўшы перад сабой канкрэтную задачу, каб у нова-абраным складзе камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі процант жанчын-батрачак, беднячак і серадднячак быў даведзены да 25.

10. Для разгортваньня самадзейнасьці бедняцка-серадняцкіх мас і большага ўцягненьня ў практычную працу камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі батрацтва і беднаты, зрабіць павялічэньне складу прэзыдымаў сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі да 9 асоб і 3 кандыдатаў, склад камісій—да 5 асоб, а таксама правесьці разукрупненьне селькамітэтаў, арганізаваўшы сялянскія таварыствы ўзаемадапамогі і іх камітэты ў вёсках, дзе ёсьць ня менш 100 двароў. Даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі распрацаваць па гэтым пытаньні практычныя мерапрыемствы да часу перавыбараў камітэтаў.

11. Пленум даручае Прэзыдыуму ЦКСТУ ў бліжэйшы тэрмін дабіцца перад урадавымі органамі забесьпячэньня большага кіраўніцтва і дапамогі ў працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі з боку выкан. камітэтаў і с/саветаў з тым, каб пры абсьледваньні і інструктаваньні выкан. камітэтаў і саветаў інструктарскім апаратам адначасова праяралася праца і інструктаваліся працаўнікі камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі, а пры заслухоўваньні дакладаў с/саветаў і раён. выкан. камітэтаў заслухоўваліся-б і садаклады адпаведных камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі.

12. Раённым і сельскім камітэтам цесна ўвязаць сваю працу з зямельнымі органамі, каперацыйнымі арганізацыямі пры разьмеркаваньні льгот, фонду каператаваньня, хлеба, земляўпарадкаваньні, кантрактацыі, стойка забараняючы пры правядзеньні гэтых мерапрыемстваў інтарэсы беднаты, даючы рашучы адпор заможнай частцы вёскі.

13. Раённым і сельскім камітэтам шырэй разгарнуць працу па дапамозе сялянкам-батрачкам, беднячкам і маламоцным серадднячкам вытворчай дапамогай, арганізуючы з іх вытворчыя аб'яднаньні, павялічыўшы дапамогу з боку камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі культурна-бытавым установам вёскі.

Тэрмінова разгарнуць шырэй працу ў садзейнічаньні абгаварэньню праекту закона стварэньня кас самастрахаваньня сялянак на выпадак цяжарнасьці, дадаўшы гэтаму пытаньню больш шырокую масавасьць.

14. Даручыць Прэзыдыуму ЦКСТУ тэрмінова паставіць пытаньне перад гаспадарчымі і каперацыйнымі органамі, асабліва перад Лесбелам, каб уся праца на вёсцы здавалася выключна батрацтву і беднаце, арганізаваным у арцелі, для чаго распрацаваць практычныя мерапрыемствы, узгадніўшы іх з ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых.

15. Пленум лічыць неабходным, арганізаваць у сыстэме камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі фонд аказаньня дапамогі ахвярам кулацкага тэрору на вёсцы, адлічыўшы для гэтай мэты 5% чыстага прыбытку раённых і сельскіх камітэтаў. Фонды павінны знаходзіцца пры раённых камітэтах сялянскае ўзаемадапамогі. Прэзыдыуму ЦКСТУ распрацаваць па гэтым пытаньні належныя мерапрыемствы.

16. У працы раённых і сельскіх камітэтаў канчаткова зьнішчыць бесплянавасьць, устанавіўшы ў кожным камітэце сыстэматычную плянавасьць і каштарыснасьць працы. Адказнасьць за гэта ўскласьці на старшынь раённых і сельскіх камітэтаў.

17. Раённым і сельскім камітэтам шырока разгарнуць растлумачальную працу сярод членаў таварыстваў аб значэньні сельска-гаспадарчай выстаўкі і падрыхтоўкі для яе экспанатаў. Таксама садзейнічаць правядзеньню конкурсу на лепшы сельска-гаспадарчы раён.

18. Адзначаючы невыкананьне дырэктыў 3-яй Сэсіі ЦВК БССР значнай часткай с/саветаў па вядзеньню сакратарамі апошніх справаводзтва сельскіх камітэтаў, даручыць Прэзыдыуму ЦКСТУ увайсьці з хадайніцтвам у ЦВК аб дачы дырэктыў па выкананьню гэтай працы.

19. Раённым і сельскім камітэтам прыняць самы актыўны ўдзел у справе ўкараненьня вайсковых ведаў сярод бедняцка-серадняцкіх пластоў вёскі шляхам дапамогі арганізацыі ячэяк Асаавіяхіму, уцягненьня ў члены Асаавіяхіму членаў таварыстваў, абавязковага аўступленьня ў члены Асаавіяхіму ўсіх раённых і сельскіх камітэтаў, дапамагаючы набыцьцю вайсковай літаратуры за сродкі камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі для вайсковых куткоў і распаўсюджваньню сярод членаў таварыстваў вайсковай літаратуры.

20. Для ўзмацненьня будаўніцтва сацыялістычнай прамысловасьці і перабудовы сельскай гаспадаркі камітэтам павесьці шырокую растлумачальную працу сярод членаў таварыстваў аб укладаньні імі сваіх вольных сродкаў на хаваньне ў касы ашчаднасьці. Усе вольныя сродкі раённых і сельскіх камітэтаў павінны абавязкова здавацца на хаваньне ў крэдытныя таварыствы або бліжэйшыя касы ашчаднасьці. Апроч таго, камітэты павінны ўсямерна дапамагаць каперацыйным органам у папаўненьні членамі таварыстваў паявых уносаў у капярацыю.

21. Раённым і сельскім камітэтам весьці дакладны падлік беднаты, патрабуючай рознага роду дапамогі, штогод аднаўляючы яго, таксама падлік усёй працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі, устанавіўшы строгую дысцыпліну падачы статсправаздач і належных зьвестак у вышэйстаячыя камітэты. Даручыць прэзыдыуму ЦКСТУ прымаць самыя жорсткія захады да асоб, што парушаюць гэты парадак.

22. Наглядаючы парушэньне парадку выбарнасьці ў органах камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі (зьмена і вызваленьне ад працы старшынь і членаў прэзыдыуму камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі) без рашэньняў прэзыдыумаў і пленумаў належных камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі. Пленум катэгарычна прапануе ў далейшым усе арганізацыйныя пытаньні праводзіць выключна праз прэзыдыумы і пленумы Камітэтаў.

23. Прымаючы пад увагу выпадкі ўваходу ў члены сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі асоб, пазбаўленых выбарчых праў, даручыць Прэзыдыуму ЦКСТУ ужыць захады да зьнішчэньня такіх выпадкаў

і тэрміновага выключэньня з таварыстваў пралезшых туды, пазбаўленых выбарчых праў, асоб.

24. Камітэты павінны садзейнічаць Саюзу Сельска-Гаспадарчых і Лясных Рабочых у справе выяўленьня маючыхся ў сялянскіх гаспадарках батракоў і заключэньню на іх дагавароў, а таксама сачыць за выкананьнем наймальнікамі заключаных з батракамі ўмоў.

### б) Пра масавую працу камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

Заслухаўшы даклад т. Арапучыка аб масавай працы камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі 2-гі пашыраны Пленум ЦК СТУ БССР п а с т а н а ў л я е:

Адзначыць, што камітэты сялянскіх т-ваў узаемадапамогі да гэтага часу, ня гледзячы на маючыяся магчымасьці і пастановы V-га Усебеларускага Зьезду СТУ, усё-ж як масавая грамадзкая арганізацыя не разгарнулі масавай працы. Галоўныя недахопы ў гэтай працы наступныя:

а) бясплянавыя пасяджэньні прэзыдыумаў, пленумаў і нарад большасьці раённых і сельскіх камітэтаў; неўцягненьне на пасяджэньні пленумаў і нарад усіх членаў камітэтаў, сельупаўнаважаных і бядняцка-серадняцкага актыву членаў таварыстваў; выпадкі пэрсанальнага вырашэньня спраў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і скрыўленьне клясавай лініі;

б) нерэгулярныя рэвізіі спраў і сродкаў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі рэв. камісіямі і справаздачнасьць перад членамі таварыстваў і выпадкі растрат;

в) недастатковыя інструктаваньне сельскіх камітэтаў і дапамога ў іх працы з боку раённых камітэтаў; невыкананьне прапаноў па актах абгляду;

г) удзел камітэтаў у перавыбарных кампаніях слабы; не разгорнута праца сярод бедняцка-серадняцкай масы членаў таварыстваў па ўдзелу ў перавыбарах саветаў і каперацыйных органаў, у падвышэньні ўраджайнасьці, аграмаджаньні запашак, своечасовым засеве, раньняй успашцы пару, успашцы пад зябь, правядзеньні кампаній па распаўсюджваньню дзяржаўных пазык, у загатоўках і кантрактацыі, правядзеньні кампаній па самаабкладаньню, па сацыялістычнаму спаборніцтву як паміж камітэтамі, таксама і паміж асобнымі вёскамі;

д) адсутнасьць дасканалага падліку па капераваньню беднаты і штодзённай працы па калектывізацыі вёскі;

е) слаба разгорнута культурная праца сярод членаў таварыстваў і праца па палепшаньню дабрабыту вёскі; сувязь селькамітэтаў па масавай працы з сельсаветамі, капярацыяй, культасьветнымі ўстановамі, ячэйкамі КП(б)Б і ЛКСМ, групамі і сходамі беднаты і сходамі дэлегатак недастатковая;

ж) адсутнасьць падліку актыву і працы з ім.

У далейшай сваёй працы сельскім і раённым камітэтам па разгортваньні масавай працы пленум прапануе правесьці ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы:

1. Устанавіць плянавыя пасяджэньні прэзыдыумаў раённых і сельскіх камітэтаў адзін раз у два тыдні. Скліканьне пленумаў раённых камітэтаў ня менш аднаго разу ў год, нарад старшынь сельскіх камітэтаў—два разы ў год, сходаў сельупаўнаважаных—чатыры разы ў год з шырокім прыцягненьнем на іх бедняцка-серадняцкага актыву з чле-

наў таварыстваў, практыкуючы правядзеньне пасяджэньняў раённага і сельскага камітэтаў, пленумаў і сходаў сельупаўнаважаных па больш буйных вёсках для шырокага азнаямленьня членаў таварыстваў з працай камітэтаў.

Нарады жанчын, працуючых у камітэтах, і прымацаваных дэлегатак, праводзіць ня менш 2-х разоў у год. На пасяджэньні прэзыдыумаў і пленумаў абавязкова вызываць таксама прымацаваных дэлегатак.

2. Раённым і сельскім рэвізійным камісіям праводзіць рэвізію ўсёй працы камітэтаў ня менш двох разоў у год (першую—пасьля правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі і другую—пасьля асеньняй пасеўнай кампаніі і сканчэньні гаспадарчага году).

Пасьля кожнай рэвізіі сельскі камітэт сумесна з рэв. камісіямі павінен зрабіць справаздачу на сходзе сельупаўнаважаных і на агульных сходах членаў таварыстваў па вёсках з шырокай самакрытыкай дасягненьняў і недахопаў працы камітэтаў, а раённы камітэт павінен зрабіць сваю справаздачу на пленуме раённага камітэту сялянскае ўзаемадапамогі, або на нарадзе старшынь сельскіх камітэтаў з удзелам камітэцкага актыву. У выпадку растрат і скрыўленьня клясавай лініі з-за адсутнасьці своечасовай рэвізіі, прыцягваць да адказнасьці нароўні з вінаватымі працаўнікамі камітэтаў і належныя рэв. камісіі.

Раённым камітэтам узмацніць кіраўніцтва сельскімі рэв. камісіямі, склікаючы нарады іх ня менш двох разоў у год перад рэвізіяй для інструктаваньня і высьвятленьня іх працы.

Прэзыдыуму ЦКСТУ ўзмацніць кіраўніцтва раённымі рэв. камісіямі, практыкуючы скліканьне раённых нарад старшынь рэв. камісій (пры скліканьні акруговых нарад старшынь раённых камітэтаў).

3. Узмацніць плянавае абсьледваньне і інструктаваньне сельскіх і раённых камітэтаў з абавязковым ахопам гэтым абсьледваньнем кожнага селькамітэту ня менш двох разоў у год і раённага камітэту—ня менш аднаго разу ў год. Пасьля кожнага абсьледваньня вынікі прапрацоўваць на сходах сельупаўнаважаных камітэтаў і на нарадах старшынь сельскіх камітэтаў пры РКСТУ.

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на практычную дапамогу з боку абглядчыка, на праверку выкананьня даных пры абглядзе прапаноў, выяўляючы прычыны невыкананьня іх.

4. Сельскім і раённым камітэтам пры правядзеньні перавыбарнай кампаніі камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі і каперацыйных органаў згуртаваць навакол себя бедняцка-серадняцкі актыў для таго, каб паставіць яго супроць кулацкіх вылазак, абмяркоўваючы высунутыя камітэтамі сялянскае ўзаемадапамогі кандыдатуры у групах і на сходах беднаты.

5. Надаць падрыхтоўкам і правядзеньню пасеўных кампаній, як правіла, штодзённы сыстэматычны і плянавы характар і масавасьць з прыцягненьнем для гэтых кампаній бедняцка-серадняцкай масы членаў таварыстваў.

6. Пры правядзеньні кампаніі па рэалізацыі 3-й пазыкі індустрыялізацыі камітэтам, як масавай грамадзкай арганізацыі, узварушыць бедняцка-серадняцкую масу вёскі вакол гэтага пытаньня, уцягваючы іх у справу сацыялістычнага будаўніцтва краіны праз набыцьце аблігацый.

Лёзунгам камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі ў гэтай справе павінен быць: „Ніводная сялянская гаспадарка не павінна застацца без абліглацыі". Камітэтам ужыць усе захады да выкананьня заданьняў

мясцовых савецкіх органаў па рэалізацыі 3-й пазыкі індустрыялізацыі, вядучы падлік сваёй працы ў гэтай справе.

7. Раённым і сельскім камітэтам прыняць актыўны ўдзел у загатоўках хлеба і сырцу, арганізуючы з бедняцка-серадняцкіх пластоў членаў таварыстваў калляктыўную здачу хлеба ў загатоўчыя пункты, таксама арганізаваць загатоўку другарадных экспартных тавараў: шэрсьці, рызьзя, касьцей, капытоў, рагоў, лекавых траў, грыбоў, ягад, арганізаваўшы для збору гэтых тавараў арцелі з беднаты, жанчын-бядначак, інвалідаў, дзяцей беднаты.

8. Камітэты павінны актыўна садзейнічаць кантрактацыі пасеваў, для чаго ў сваёй штодзённай працы растлумачваць сярод бедняцка-серадняцкіх пластоў вёскі карысьць кантрактацыі. У першую чаргу члены камітэтаў і сельупаўнаважаныя павінны кантрактаваць групавым парадкам свае пасевы. Камітэты павінны садзейнічаць выкананьню дагавароў па кантрактацыі.

9. Камітэты павінны прымаць актыўны ўдзел у справе самаабкладаньня, сачыць за правільным раскладам яго, вызваляючы беднату ад уплаты самаабкладаньня. Узгадняць з сельсаветамі пытаньне аб унясеньні ў каштарысы па самаабкладаньню сродкаў на пабудову насенных магазынаў.

10 Зрабіць дакладны падлік каператаванай беднаты і тэй яе часткі, якая яшчэ не каперавана, але павінна быць каператаванай, абмеркаваць гэтыя сьпісы на сходах сельупаўнаважаных, групах і сходах беднаты. На ўсе яшчэ некаператаваныя бядняцкія гаспадаркі скласьці плян каператаваньня, дакладна вызначыўшы ў ім, калі і за якія сродкі будзе каператавацца тая або іншая гаспадарка.

11. Для калектывізацыі вёскі камітэты павінны весьці штодзённую працу па падрыхтоўцы бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі да арганізацыі ў калектыўныя аб'яднаньні. Пры гэтым працаўнікі камітэту і камітэцкі актыў павінен быць перадавой часткай ва ўступленьні ў калектывы. Папулярызаваць сярод членаў таварыстваў дасягненьні калектыўных гаспадарак, робячы масавыя экскурсіі ў калектывы.

12. Раённым і сельскім камітэтам шырэй разгарнуць працу па сацыялістычнаму спаборніцтву вёскі, як сродка для палепшаньня працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі і ўзмацненьня бядняцка-серадняцкай сялянскай гаспадаркі.

Уступаючы ў сацыялістычнае спаборніцтва паміж сабой, камітэты павінны ўцягваць у яго асобныя вёскі і цэлыя раёны сельсаветаў, а таксама вясковыя прадпрыемствы, дабіўшыся, каб ні аднаго камітэту, ні аднэй вёскі ня было не ўцягнутай ў сацыялістычнае спаборніцтва.

13. Прымаючы ўдзел у камісіях: падатковай, страхавой, па землеўпарадкаваньню, па водпуску лесу, камітэты павінны своечасова складаць сьпісы беднаты на атрыманьне тэй або іншай льготы, паводле закону, папярэдне абмяркоўваючы гэтыя сьпісы на сходах сельупаўнаважаных, групах і сходах беднаты, і ні ў якім разе не рабіць выдачы асобных даведак на атрыманьне льгот.

14. Для вядзеньня культпрацы сельскія і раённыя камітэты павінны мець самую цэсную сувязь з культасьветнымі установамі, прымаць актыўны ўдзел у камісіях, што організуюцца пры культасьветных установах, дапамагаючы пасылцы дзяцей беднаты і батракоў у сярэднія і вышэйшыя навучальныя установы і назначэньню належнай стыпэндыі.

Дапамагаць вучням—дзецям беднаты матарыяльна закупкай адзеньня, абутку, падручнікаў, харчаваньня, вызначаючы на гэтую мэту па сваіх гадавых каштарысах 2-3% агульнага прыбытку.

Дапамагаць школам, хатам-чытальням рамонтам памяшканьня, інвэнтару, закупкай літаратуры, прыцягваючы для гэтай мэты камітэцкі актыў.

Садзейнічаць арганізацыі хат-чытальняў, школ-лікбезу, сельска-гаспадарчых гурткоў, чырвоных куткоў, арганізоўваць пры хатах-чытальнях куткі сялянскай узаемадапамогі, выпісваць для гэтага належную літаратуру (сельска-гаспадарчыя часопісі, газэты), садзейнічаць распаўсюджаньню выпіскі газэт і часопісаў.

Садзейнічаць арганізацыі насьценгазэт, зьмяшчаць у іх артыкулы, высьвятляючыя добрыя і адмоўныя бакі працы камітэтаў. Высьвятляць працу камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі ў акруговых і цэнтральных газэтах.

15. Камітэты павінны прымаць актыўны удзел у сэкцыях па паляпшэньню дабрабыту, асабліва дабрабыту жанчын, дапамагаючы арганізацыйна і матарыяльна пры арганізацыі дзіцячых пляцовак, ясьляў, інвалідных дамоў, пажарных дружын, грамадзкіх лазьняў, пабудове шляхоў, грамадзкіх студняў.

16. Па ўсіх пытаньнях масавай працы камітэты павінны мець цесную сувязь з сельсаветамі, ячэйкамі КП(б)Б, ЛКСМ, групамі беднаты, партыйнымі органамі, сходамі беднаты, сходамі дэлегатак, хатамі-чытальнямі і школамі і дамагацца аказаньня з іх боку дапамогі працы камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі.

Кожнае мерапрыемства ў рабоце камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі па масавай працы павінна быць папярэдня абмеркавана на групах і сходах беднаты і толькі тыя з іх, якія ўхвалены апошнімі, павінны праводзіцца ў жыцьцё праз сходы сельупаўнаважаных і агульныя сходы членаў таварыстваў.

17. Наглядаючы з практыкі, што ўдзел у камісіях, што арганізоўваюцца сельсаветамі і грамадзкімі арганізацыямі, прымае толькі адзін старшыня сельскага камітэту (ён-жа выконвае і ўсю камітэцкую працу), прапанаваць раённым камітэтам разьмеркаваць працу сельскамітэтаў такім парадкам, каб кожны член камітэту меў належную нагрузку як па камітэцкай працы, так і па ўдзелу ў камісіях.

### в) Пра вынікі правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Заслухаўшы даклад т. Стрыкава аб выніках удзелу камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі 1929 г. і плян падрыхтоўкі і правядзеньня асеньняй пасеўнай кампаніі, 2-гі пашыраны Пленум Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР пастанаўляе:

1. Адзначыць ў працы камітэтаў па падрыхтоўцы і правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі бягучага году наступныя дасягненьні.

а) Заданьне па падрыхтоўцы з боку Прэзыдыуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі было зроблена своечасова, а таксама праверка выкананьня гэтых заданьняў шляхам правядзеньня акруговых нарад старшынь раённых камітэтаў (праведзена па 2 нарады ў кожнай акрузе) і абсьледваньня і інструктаваньня раённых і сельскіх камітэтаў.

б) Павялічэньне загатоўкі і выдачы насеньня на 95.866 пуд. супроць мінулага году (загатоўлена і выдадзена насеньня 350.318 пуд.).

в) Павялічэньне ачысткі насеньня машынамі камітэтаў на 461.264 п. (ачышчана насеньня 1.139.376 пуд.).

г) Арганізацыя 155 новых пракатных пунктаў і павялічэньне ў іх зерняачышчальных машын супроць мінулага году на 242 (працавала ў час ачысткі насеньня 536 машын камітэтаў).

д) Пабудова 49 новых кузьняў-майстэрань (працавала 64 кузьні-майстэрні, якімі адрамантавана с/гаспадарчага інвэнтару 7.628 гаспадаркам).

е) Засеў грамадзкімі сіламі 718 гэктараў камітэцкіх вучасткаў, з якіх 105 гэктараў культурна-паказальных.

ж) Большы удзел камітэтаў у капераваньні беднаты і каляктывізацыі вёскі чымся ў мінулым годзе (капераваны за сродкі камітэтаў 4.559 гаспадарак і за сродкі капярацыі 29.7 8 гаспадарак, арганізавана пры ўдзеле камітэтаў 324 каляктыўных аб'яднаньні з лікам членаў у іх 7.796).

з) Збор пры ўдзеле камітэтаў попелу на ўгнаеньне 126.375 пуд.

2. Побач з дасягненьнямі ў працы камітэтаў па падрыхтоўцы і правядзеньню пасеўкампаніі маюцца наступныя недахопы:

а) спазьненьне з загатоўкай насеньня, як праз спагнаньне запазычанасьці, таксама і закупку праз капярацыю (у некаторых раёнах загатоўка пачалася ў сьнежні—студні м-цах) і слабае спагнаньне запазычанасьці (спагнана 50 %);

б) недастатковае кіраўніцтва падрыхтоўкай з боку большай часткі раённых камітэтаў, праверкай выкананьня дадзеных дырэктыў і нават нядбайныя адносіны некаторых старшынь;

в) слабае кіраўніцтва і дапамога ў гэтай справе з боку сельсаветаў і часткі райвыканкомаў;

г) несваечасовыя заяўкі камітэтаў у сельска-гаспадарчую капярацыю аб загатоўцы для іх насеньня за грошы і адмаўленьне капярацыі задаволіць заяўкі;

д) затрымка некаторымі акрсельбанкамі крэдытаў, адпушчаных на пабудову кузьняў-майстэрань (Магілеўская акруга) і недастатковае забясьпечаньне кузьняў-майстэрань жалезам;

е) несваечасовая і няпоўная нагрузка зернаачышчальных машын ў некаторых камітэтах, нявыстарчальны нагляд за імі пры перасоўваньні з аднэй вёскі ў другую, папсаваньне машын і г. д.;

ж) несваечасовае складаньне сьпісаў беднаты, што мела патрэбу ў дапамозе і капераваньні ў час пасеўнай кампаніі, і адсутнасьць абмеркаваньня патрэбнай дапамогі на групах і сходах беднаты;

з) зусім слаба арганізавана працоўна-гужавая дапамога (праз дружыны, талокі, нядзельнікі і супрагі);

і) недастатковае кіраўніцтва падрыхтоўкай з боку акрупаўнаважаных, асабліва Гомельскай, Полацкай і Мазырскай акруг;

к) слабая інфармацыя з боку часткі раённых і сельскіх камітэтаў аб падрыхтоўцы і ходзе пасеўкампаніі, што перашкаджала сваечасоваму рэагаваньню на недахопы з боку вышэйшых органаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

3. У падрыхтоўцы і правядзеньні асеньняй пасеўнай кампаніі бягучага году і вясеньняй пасеўнай кампаніі 1930 году зьнішчыць недахопы, якія былі ў вясеньнюю пасеўную кампанію бягучага году і правесьці ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы:

а) па падрыхтоўцы і правядзеньню асеньняй пасеўнай кампаніі ухваліць плян працы, зацьверджаны Прэзыдыумам Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі 29-V 1929 г. і прапанаваць раённым і сельскім камітэтам выканаць усе намечаныя мерапрыемствы;

б) надыходзячая асеньняя і будучая вясеньняя пасеўныя кампаніі павінны прайсьці пад знакам усямернага ўдзелу камітэтаў у справе калектывізацыі вёскі праз накіраваньне арганізацыйнай і матарыяльнай дапамогі бедняцкім і незаможным серадняцкім гаспадаркам, што арганізоўваюцца і ўжо арганізаваны ў калектыўныя аб'яднаньні (уносам паёў, выдачай насенных пазык, абслугоўваньнем пракатнымі і злучнымі пунктамі і прадпрыемствамі камітэтаў), праз своечасовую ачыстку насеньня, капераваньне беднаты і аказаньне працоўна-гужавой дапамогі бедняцкім гаспадаркам, сем'ям чырвонаармейцаў, партызанаў, інвалідаў і ўдоў-беднячак;

в) поўнае спагнаньне насеннай запазычанасьці мінулых гадоў і насеньня, раздадзенага вясной бягучага году. Спагнаньне запазычанасьці пачаць з 15-га кастрычніка бягучага году і скончыць не пазьней 1-га сьнежня. Да гэтага-ж тэрміну спагнаць грашовую, запазычанасьць па членскіх уносах і закупіць праз сельска - гаспадарчую капярацыю яравога насеньня, сартовага ці палепшанага, кожнаму сельскаму камітэту ў сярэднім 150 пуд., зрабіўшы мясцовай сельскагаспадарчай капярацыі заяўкі на патрэбную колькасьць насеньня не пазьней 15-га кастрычніка бягучага году праз раён. камітэт. Даручыць Прэзыдыуму ЦКСТУ своечасова ўзгадніць пытаньне з Белсельсаюзам аб дачы дырэктыў па лініі сельска-гаспадарчай капярацыі па беспераўбашкоднаму забесьпячэньню камітэтаў насеньнем за грошы па іх заявах;

г) ачыстку насеньня для вясеньняй пасеўнай кампаніі пачаць з 15-га кастрычніка, папоўніўшы да гэтага часу пракатныя пункты камітэтаў зернаачышчальнымі машынамі з такім разрахункам, каб на кожным пракатным пункце працавала мінімум адна зерняачышчальная машына. Для поўнай нагрузкі машын і рэгулярнай іх працы зрабіць плян зерняачышчэньня і перасоўкі машын на ўвесь пэрыяд зерняачышчэньня, усклаўшы нагляд за машынамі, падлік працы і адказнасьць за гэту справу на аднаго з членаў сельскага камітэту.

Камітэтам у першую чаргу ачысьціць свае насенныя фонды, атрыманыя ад спагнаньня запазычанасьці, абмалоту ўраджаю з камітэцкіх вучасткаў і закупкі;

д) сельскім камітэтам у працягу зімовага пэрыяду адрамантаваць увесь інвэнтар і папоўніць пракатныя пункты неабходнымі машынамі і інвэнтаром, даручыўшы пракатныя пункты пад адказнасьць аднаму з членаў селькамітэту;

е) раённым камітэтам у працягу кастрычніка і лістапада месяцаў бягучага году, ня маючым кузьняў-майстэрань, пабудаваць апошнія, для чаго тэрмінова прыступіць да загатоўкі неабходных прылад і матарыялаў, а таксама прывесьці ў поўную спраўнасьць маючыяся кузьні-майстэрні з тым, каб яны своечасова маглі распачаць рамонт с.-гаспадарчага інвэнтару і машын членам таварыстваў, даўшы своечасова заяўкі ў сельска-гаспадарчую капярацыю па забесьпячэньню кузьняўмайстэрань жалезам;

ж) усім сельскім камітэтам у працягу зімовага пэрыяду арганізаваць збор попелу на ўгнаеньне, захоўваючы яго ў сухім месцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі;

з) у працягу верасьня і кастрычніка месяцаў правесьці агульныя сходы членаў таварыстваў з шырокім растлумачэньнем задач па падвышэньню ўраджайнасьці (успашка глебы пад зябь, ачыстка насеньня, абмен насеньня на сартавое або палепшанае, збор попелу, пратручваньне насеньня і г. д.), пры гэтым камітэты павінны паказаць прыклад практычнай працы на сваіх зямельных вучастках.

і) усім сельскім камітэтам абавязкова арганізаваць з актыву сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, с.-саветаў, ячэяк ЛКСМ працоўныя дружыны (у ліку 25-30 асоб) для аказаньня працоўна-гужавой дапамогі беднаце і гаспадаркам, пацярпеўшым ад стыхійных няшчасьцяў; практыкаваць аказаньне дапамогі праз талокі, нядзельнікі, супрагі. Кіраўніцтва прац. дружынай ускласьці на аднаго з членаў сельскамітэту;

к) сельскім камітэтам не пазьней 1-га студзеня 1930 году скласьці сьпісы беднаты, якая патрабуе дапамогі насеньнем, працгуждапамогай, абслугоўваньня пракатнымі пунктамі, дапамогі крэдытамі і каапераваньня. Сьпісы гэтыя прапрацаваць на групах і сходах беднаты і зацьвердзіць на сходах сельупаўнаважаных, наведаміўшы кожную гаспадарку не пазьней 1-га сакавіка, якая ёй вызначана дапамога;

д) сельскім і раённым камітэтам пільна сачыць за скарыстаньнем па прызначэньню атрыманых членамі таварыстваў крэдытаў і пазык і вывучаць кожную бедняцкую гаспадарку ў мэтах паляпшэньня яе праз арганізацыю ў калякты ў або шляхам выдачы крэдыту (эфэктнасьць крэдыту і пазык на паляпшэньне тэй або іншай гаспадаркі);

м) камітэтам так арганізаваць справу, каб у час пасеўнай кампаніі вызначаныя для бедняцкіх гаспадарак насеньне і сельска-гаспадарчы інвэнтар былі своечасова разьмеркаваны і дастаўлены на месца для выдачы;

н) сельскім і раённым камітэтам дапамагаць савецкім органам выяўляць арэнду зямлі ў скрытай форме, кабальныя дагаворы з кулацкай часткай вёскі, таксама ўтойваньне зямлі ад абкладаньня і недасеву, своечасова паведамляць аб гэтым савецкія органы на прадмет ужыцьця належных захадаў да зьнішчэньня гэтых перашкод, якія мяшаюць разьвіцьцю сельскай гаспадаркі;

б) нагляд за падрыхтоўкай і правядзеньнем с.-г. кампаніі і адказнасьць за выкананьне гэтых задач ускласьці на прэзыдыум ЦКСТУ, акрупаўнаважаных, старшынь раённых і сельскіх камітэтаў;

п) пляны па падрыхтоўцы і правядзеньню пасеўкампаніі павінны быць абавязкова ўвязаны з плянамі сельсаветаў, зорорганаў і кааперацыйных арганізацый.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі БССР *Л. Жарын.*

Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі БССР *П. Стрыкаў.*

22 ліпеня 1929 г.

---

## 26. Часовыя правілы аб нормах для новых будынкаў у с-г. калектывах і савецкіх гаспадарках.

Для разьвіцьця інструкцыі, зацьверджанай Эканамічнай Нарадай БССР 28-га студзеня 1929 г. „Пра парадак зацьверджаньня праектаў непрамысловага будаўніцтва“ (З. З. БССР 1929 г. № 7, арт. 32, аддз. I)

часова ўстанаўляюцца наступныя нормы пры праектаваньні жыльлёвага і гаспадарчага будаўніцтва ў сельскагаспадарчых каляктывах і савецкіх гаспадарках.

## I. Жылыя дамы.

1) Аб'ёмныя каэфіцыэнты суадносін аб'ёму будынку і яго карыснай і жыльлёвай плошчы:

| | | |
|---|---|---|
| Для драўлян. аднапаверх. будынк. максімум да карысн. пл. | 4,2, а жыл. | 6,6 |
| " " двухпаверх. " " " " " | 4,5 " | 6,8 |
| " каменных і наогул агнятрыв. аднапаперх. " " | 5,1 " | 7,1 |
| " " " " двухпаверх. " " | 5,3 " | 7,5 |

*Увага.* У разуменьне „жыльлёвая плошча“ уваходзіць сума плошчаў жылых пакояў, за вылікам плошчы пячэй і карэнных труб. У разуменьне „дапаможная плошча“ уваходзіць плошча кухні, пярэдняй, карыдору, уборнай, ваннай і кладовых за вылікам плошчы пячэй і карэнных труб.

У разуменьне „карысная плошча“ уваходзіць сума жылой і дапаможнай плошчаў. У „карысную плошчу“ не ўключаюцца ўнутраныя сьцены і перагародкі, а таксама лесьвіцы і халодныя сені ў аднапаверхавых памяшканьнях.

2) Разьмеры плошчаў кватэр:

Высата ўнутры пакою (ад падлогі да падшыўкі столі, альбо насьцілкі паверх бэляк), мтр. . . . . . . . . . . . 2,8

а) жылая плошча ў сем'ях пры абагуленай гаспадарцы (ў камуне, арцелі) на адну асобу, ў залежнасьці ад колькасьці членаў сям'і, на якую разьлічваецца кватэра, кв. мтр. . 5—6

б) Разьмер жылой плошчы на адну асобу ў кватэры пры неабагуленай гаспадарцы, у залежнасьці ад колькасьці членаў сям'і, на якую разьлічваецца кватэра, кв. мтр. 7—8

*Увага 1.* Найменшая жылая плошча для кватэр з абагуленымі гаспадарчымі памяшканьнямі кв. мтр. . . . 18

Карысная плошча для кватэр з індывідуальнай гаспадаркай кв. мтр. . . . . . . . . . . . . 30—60

*Увага 2.* Паказаныя ў п. 2-м меншыя разьмеры плошчы бяруцца для вялікіх сямей у 6—8 асоб і, наадварот, для малых сямей у 3—4 асобы трэба браць большыя з паказаных у пункце і ўвазе нормы, альбо сярэднія нормы. Зьмяншэньне жылой плошчы для каляктыўных гаспадарак тлумачыцца тым, што ў іх праектуюцца адпаведныя памяшканьні агульнага карыстаньня: сталоўкі, чырвоныя куткі, ясьлі і інш.

3) Найвялікшыя разьмеры паасобных покояў:

а) у глыбіню пры драўляных бэльках у 6,4 мтр. . . . 5,7

б) " " " " " 8,5 " . . . . 7,8

в) у драўляных будынках найбольшая даўжыня сьцяны бяз змыкаў мтр. . . . . . . . . . . . . 8,5

а калі сьцены з гліны без папярэчных сьцен ці кантрфорсаў мтр. . . . . . . . . . . . 20

4) Разьмеры паасобных пакояў:

пярэднія з памяшканьнем для верхняга адзеньня (разьдзявальня) кв. мтр. . . . . . . . . . 0,4

але ня мешн на адну асобу кв. мтр. . . . . . . 5

умывальныя з разрахунку на 1 асобу кв. мтр. . . . 0,2

Габінэты (агранамічн., лекарскі і інш.) кв. мтр. . . 10—15

Сталоўкі, ня звыш як на 25 асоб, на адну асобу кв. мтр. 1,2

Сталоўкі вялікія на 100 асоб, на адну асобу, у залежнасьці ад колькасьці (абратна прапарцыянальна ёй) абедаючых, кв. мтр . . . . . . . . . . . . 0,80—1

*Увага.* Для разьмяшчэньня ў сталоўцы 100 чал., якія абедаюць у адну зьмену, пры шырыні стала 0,9 мтр. і даўжыні 0,53 мтр. на асобу, для скамеек з кожнага боку 0,7 мтр. і праходу за скамейкамі па 0,6 мтр. патрэбна кв. м. 80,2

Буфэтныя пры сталоўках на адну асобу кв. мтр . . 0,40

Кухня (на 20—40 абедаючых) кв. мтр. . . . . . . 16,0

Кухня (на 50 абедаючых) кв. мтр. . . . . . . . 25

Кухня (на 100—150 абедаючых) кв. мтр. . . . . 40—50

Кладовая пры кухні ў залежнасьці ад умоў гаспадаркі кв. мтр. . . . . . . . . . . . . . . . 6—10

Паграбы (склепы) на адну сям'ю кв. мтр. . . . . 3— 6

Заля для сходаў пры абсталяваньні іх кіно-будкамі на адну асобу кв. мтр. . . . . . . . . . . . . 0,8

Люфт-клазэты на адно месца (1,1×0,75) кв. мтр. (з разрахунку адно ачко на 12 асоб). Глыбіня пакояў не павінна перавышаць двайной шырыні і вышыні. . . . . 0,82—1

Шырыня калідору ў залежнасьці ад даўжыні яго, мтр . . 1,5—1,8

Колькасьць лесьвіц у агульных памяшканьнях бярэцца з разрахунку на 30 асоб лесьвіц . . . . . . . . . 1

Карысная шырыня маршэй лесьвіц мтр . . . . . . 0,9

Адносіна сьветавой плошчы да плошчы падлогі ў жылых і грамадзкіх памяшканьнях . . . . . . . . . 1,8—1,10

А ў калідорах ня менш . . . . . . . . . 1,18

5) Санітарныя нормы для сталых ясьляў і садоў:

| А. Для дзіцячых ясьляў. | На 1 дзіця. | Усяго ня менш |
|---|---|---|
| 1. Спальня . . . . . . . | 2,0 к. м. | 22,0 к. м. |
| 2. Пакой для гульняў—сталовая . | 2,0 „ „ | 18,0 „ „ |
| 3. Туалетная, раздз. і прыбір. (паасобна) . | 1,0 „ „ | 10,0 „ „ |
| 4. Ванная . . . . . . . | 0,2 „ „ | 8,0 „ „ |
| 5. Кухня з каморкай . . . . | 0,6 „ „ | 10,0 „ „ |
| 6. Ізалятар (і доктарская) . . . | 0,6 „ „ | 8,0 „ „ |
| 7. Пакой для пэрсаналу . . . | 0,8 „ „ | 8,0 „ „ |
| Разам . . | 7,2 к. м. | 84 к. м. |

| Б. Для дзіцячых садоў. | | |
|---|---|---|
| 1. Пакой для гульняў . . . | 2,5 к. м. | 25 к. м. |
| 2. Спальня . . . . . . | 2,0 „ „ | 20 „ „ |
| 3. Пакой для заняткаў . . . | 0,8 „ „ | 9 „ „ |
| 4. Ізалятар-доктарская . . . | 0,6 „ „ | 8 „ „ |
| 5. Кухня з каморкай . . . . | 0,6 „ „ | 10 „ „ |
| 6. Разьдзявальня . . . . | 0,25 „ „ | 6 „ „ |
| 7. Прыбіральная і ўмывальная . | 0,5 „ „ | 8 „ „ |
| 8. Пакой для пэрсаналу . . . | 0,8 „ „ | 8 „ „ |
| 9. Інвэнтарная . . . . . | 0,4 „ „ | 6 „ „ |
| Разам | 8,45 к. м. | 100 к. м. |

*Увага.* Нормы на адно дзіця бяруцца толькі пры праектаваньні на абслугоўваньне звыш 10 дзяцей. На 10 і менш—нормы агуль-

ныя мінімальныя. Калідоры і праходы ў паказаныя нормы ня ўключаны. Вышыня 3 мэтры.

У іншых выпадках застаюцца агульныя санітарныя нормы.

Прыбіральня можа быць выносной сыстэмы гаршкамі.

### II. Службы і гаспадарчыя будынкі (дробныя).

| | |
|---|---|
| Агульныя леднікі на адну сям'ю карыснай плошчы падлогі кв. мтр. | 2 |
| Надворныя нужнікі разьлічваюцца па аднаму ачку і па 0,45 паг. мтр. жолаба на асоб | 35 |
| *Увага.* Адлегласьць паміж ачкамі—70 сант.; разьмер ачкоў (авальнай формы) з вырэзам 27×36 сант. | |
| Пякарні з аднэй печкай у 2,8 кв. мтр. падлогі (з выпечкай на 120 асоб) кв. мтр. | 32 |
| Сараі для дроў на 1 печ у залежнасьці ад запатрабаваньняў гаспадаркі, куб. мтр. сараяў | 3—5 |

### III. Канюшні.

| | |
|---|---|
| Вышыня ўнутры пры зьмяшчэньні ў канюшні да 10 коняй мтр. | 2,75 |
| ад 10 да 30 коняй | 3,25 |
| ад 30 да 50 „ | 3,50 |
| На аднаго рабочага каня шырыня стойла мтр. | 1, 5 |
| даўжыня з уключэньнем ясьляў | 2,65 |
| Шырыня праходу мтр. ад 1,6 да 2 (пры аднарадным разьмяшчэньні ў залежнасьці ад разьмераў канюшні) | 1,6—2 |
| Шырыня праходу мтр. пры двохрадным разьмяшчэньні | 2—3 |
| Шырыня стойла для буйных і выязных коняй мтр. | 1,6—1,8 |
| Плошча стойла на адну галаву кв. мтр. | 4—6 |
| Дзеньнікі разьмерам 3×3 мтр. на 1 галаву кв. мтр. | 9,0 |
| Шырыня ясьляў (у пляне) мтр. | 0,35—0,40 |
| Адносіны сьветавой плошчы да плошчы падлогі | 1,12—1,14 |
| Аб'ём паветры на аднаго каня куб. мтр. | 25—35 |
| Аддзяленьне пад корм на аднаго каня, у залежнасьці ад умоў гаспадаркі, кв. мтр. | 0,15—0,25 |
| Аддз. пад збрую на аднаго каня кв. мтр. | 0,10 |
| Дзьверы з разьліку на 10 коняй дзьвярэй | 1 |
| Колькасьць вэнтыляцыйных труб „Мюра“ разьм. 0,7×0,70 на 12 коняй | 1 |
| Вышыня ніжняй лініі вакон над падлогай мэтраў мінімум | 1,7 |

### IV. Жывёльныя сараі.

| | |
|---|---|
| Вышыня пры гнаёвым утрыманьні ў кароўн. да 15 кароў | 3,2 |
| „ „ „ „ „ 50 „ | 3,5 |
| „ „ „ „ „ больш 50 „ | 4,0 |
| Пры выграбным утрыманьні вышыня памяшканьня зьмяншаецца на мэтраў | 0,50 |
| Праход гнаёвы пры аднарадным разьмяшчэньні мтр. | 1,10 |
| „ „ „ двохрадным і папярэчным разьмяшчэньні мтр. | 1,7 |
| Праход кармавы шырыня паг. мтр | 0,90—1 |
| Шырыня гноевага праезду мтр | 2,1—2,25 |
| Агульная шырыня нізкіх кармушак у пляне (у залежнасьці ад тыпу іх) мтр. | 0,8—1 |

| | |
|---|---|
| Шырыня стокаў мтр. | 0,40 |
| Глыбіня стокаў мтр. | 0,20 |
| Вышыня ніжняй лініі вокан над падлогай пры гнаёвым утрыманьні мінімум мтр. | 1,70 |

Пры разьмяшчэньні ня ў стойлах разьлічваць:

| | Уздоўж сьцяны | Папярок сьцяны | |
|---|---|---|---|
| | Для 1-ае жывёліны | Пры выс. карм. | Пры нізк. карм. |
| Для малых кароў паг. мтр. | 1, 0 | 2,1 | 1,5 |
| „ вялікіх „ „ „ | 1,25 | 2,3 | 1,7 |
| „ быка (1 бык на 30 кар.) | 1, 7 | 2,8 | 1,7 |
| На аднаго цялёнка да 3-х мес. (якіх лічыць 12 проц. ад стада) кв. м. | — | — | 2,5 |
| На аднаго цялёнка ад 3-х да 6 мес. (якіх лічыць 10% ад стада) кв. м. | | | 3,5 |
| Памяшканьні для загатоўкі корму на адну галаву кв. мтр. | — | 0,5 | — |
| Памяшканьне для хаваньня корму, прыёму малака, запісаў вагі і інш. на 1 галаву кв. мтр. | — | — | 0,5 |

| | |
|---|---|
| Адносіны сьветавой плошчы да плошчы падлогі | 1/10—1/12 |
| Вэнтыляцыя на 12 галоў труб (40×40 сант.) | 1 |
| Дзьвярэй для выхаду робіцца з разьліку на 20 кароў | 1 |
| Брандмаўэры будуюцца на адлегласьці не далей як мэтр. | 60 |
| Разрывы паміж асобнымі жывёльнымі сараямі павінны быць ня менш мтр. | 20 |

*Увага.* У вялікіх аборах для племянной жывёлы бяруцца большыя нормы (але ня вышэй паказаных).

## V. Сьвінарнік.

| | |
|---|---|
| Вышыня ўнутры ў залежнасьці ад колькасьці сьвіней мтр. | 2—2,25 |
| Стойлы для апарасіўшыхся сьвіней з парасятамі кв. мтр. | 7 |
| Стойла для кныра кв. мтр. | 6 |
| У агульных хлявох на 1 матку не супаросную кв. мтр. | 2,5 |
| На 1 падсьвінка кв. мтр. | 1,2—1,3 |
| Для вялікіх парасят кв. мтр. | 0,9—1 |
| Для малых парасят кв. мтр. | 0,5—0,7 |
| Для сьвіней на адкорм кв. мтр. | 2,0 |
| Праходы паміж радамі стойлаў паг. мтр. | 1,50 |
| Адносіны плошчы сьвету да плошчы падлогі | 1/10—1/12 |
| Аддзяленьні для загатоўкі корму, пры колькасьці 25 сьвіней на галаву кв. мтр. | 0,50 |
| Пры большай колькасьці кв. мтр. | 0,40 |
| Разьмеры дворыкаў робяцца больш паказаных для стойлаў норм у раз | 5 |

## VI. Аўчарнік.

| | |
|---|---|
| Унутраная вышыня пры гноёвым утрыманьні паг. мтр. | 2,8 |
| „ „ „ выграбным | 2,3 |
| Плошча падлогі на 1 аўцу кв. мтр. | 1 |
| Даўжыня ясель на кожную аўцу паг. мтр. | 0,5 |
| Разьмер стойла для барана кв. мтр. (1 баран на 25—30 авец) | 2 |

Аддзяленьне для хворых авец робіцца з разрахунку 7 проц. ад агульнай колькасьці авец.

| | |
|---|---|
| Адносіна плошчы сьвету да плошчы падлогі | 1/12 |
| Памяшканьне для загатоўкі корму, для стрыжкі, агляду, узважваньня і мойкі на 1 аўцу кв. мтр. | 0,15—0,20 |

## VII. Птушатнік.

| | |
|---|---|
| Вышыня ўнутры, у залежнасьці ад колькасьці, мтр. | 1,90—2,10 |
| Плошча падлогі на адну куру кв. мтр. | 0,15—0,35 |
| „ „ „ гуся альбо насадку | 0,25—0,65 |
| „ „ „ качку | 0,15—0,45 |
| „ „ „ індычку | 0,30—0,70 |
| Плошча дворыкаў для летніх выгулаў на 1 куру кв мтр. | 18 |
| „ „ „ „ „ „ 1 качку | 9,0 |
| На адну куру даўжыня насесту мтр. | 0,20 |
| Разьмер гнёзд па пляну кв. мтр. | 0,08 |
| Адносіна плошчы сьвету да плошчы падлогі | 1/8—1/6 |
| Зімнія крытыя выгулы на 1 куру кв. мтр. | 0,15—0,10 |

*Увага*. Большыя з паказаных разьмераў бяруцца для племянных птушак.

## VIII. Сарай для снапоў і сена.

| | |
|---|---|
| 1000 кгр. жыта, пшаніцы, аўса займае аб‘ём (у залежнасьці ад сорту і сухасьці) куб. мтр. | 33—40 |
| Саломы путанай 1000 кгр. займае аб‘ём | 66—83 |
| „ кулявой з-пад цэпа кгр. | 45 |
| Сена 1000 кгр. | 15 |

## IX. Сьвірны.

| | |
|---|---|
| 1000 кгр. жытняй мукі займаюць куб. мтр. | 3,6 |
| „ „ вотрубей „ „ „ | 3,2 |
| „ „ мякіны „ „ „ | 1,5 |
| „ „ пшаніцы (сух). „ „ „ | 1,3 |
| „ „ жыта (сух). „ „ „ | 1,2 |
| „ „ аўса „ „ „ „ | 2,6 |
| „ „ ячменю „ „ „ „ | 1,5 |
| „ „ грэчкі „ „ „ „ | 1,8 |
| Зярно сыплецца ў сьвірны пры адсутнасьці вэнтыляцыі таўшч. м. (таўшчыня слою ў залежнасьці ад сухасьці) | 0,6—1 |

## X. Інвэнтарны і машынны сарай.

| | |
|---|---|
| Вышыня (ў залежнасьці ад вышыні машын) | 2,25—4 |
| Плошча, займаемая плугам, кв. мтр. | 2,5×1,8 |
| „ „ бараною „ „ | 1,4×1,4 |
| „ „ санямі „ „ | 1,2×2,2 |
| „ „ трактарам „ „ | 2,0×3,0 |
| У сярэднім на 1 гэктар пахаці плошча сараяў каля мтр. | 0,9 |

